● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

20 лютага 1996 г.
аўторак, №№ 48 — 49
(22851—22852)



# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### ГАВАРЫЛІ АБ ВАЖНЫМ, АЛЕ ПА-СУСЕДСКУ

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Уладзімір Жаліба сустрэўся са спікерам беларускага парламента Сямёнам Шарэцкім.**

У ходзе сустрэчы адбылася дружалюбная канструктыўная гутарка аб шляхах дынамізацыі ўсебаковага ўкраінска-беларускага супрацоўніцтва. Субяседнікі абмяняліся інфармацыяй аб палітычнай і сацыяльна-эканамічнай абстаноўцы, ходзе эканамічных рэформаў у дзяржавах. З улікам росту геапалітычнай вагі ў свеце Украіны і Беларусі быў закрануты шэраг знешнепалітычных пытанняў, а таксама важныя аспекты ажыўлення супрацоўніцтва парламентаў і, у прыватнасці, на ўзроўні дэпутацкіх камісій. С.Шарэцкі паведаміў, што Вярхоўны Савет Беларусі бачыць сваё прызначэнне не проста ў стварэнні законаў, а ў фарміраванні іх кодэксаў.

Вялікае месца ў гутарцы было адведзена абмеркаванню шляхоў нарошчвання гандлёва-эканамічнага абароту, выкананню міждзяржаўных пагадненняў, развіццю рэгіянальнага і міжгаліновага супрацоўніцтва. Сямён Шарэцкі выказаўся за стварэнне сістэмы цеснага гуманітарна-культурнага супрацоўніцтва і інтэнсіўны абмен інфармацыяй, развіццё сувязей па тыпу гарадоў-пабрацімаў, цёплыя чалавечыя кантакты. Размова ішла таксама і аб канкрэтных напрамках уніфікацыі заканадаўства дзвюх краін, спрашчэнні мытна-пагранічнага рэжыму, наладжванні бесперапыннага дзейснага кансультатыўнага працэсу.

**БЕЛТА.**

### МАЛАКО ПРЫНОСІЦЬ НЕ ТОЛЬКІ КАРЫСЦЬ...

**Паводле інфармацыі, атрыманай у аддзеле гігіены харчавання Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, з 15 лютага ў сталіцы, згодна з пастановай галоўнага санітарнага ўрача г. Мінска Віктара Чалнова, прыпынена рэалізацыя сырога непастэрызаванага малака з цыстэрнаў.**

Гэтая мера звязана з павелічэннем колькасці захварэўшых на вострыя кішэчныя інфекцыі, у тым ліку на захворванні, звязаныя з ужываннем сырога малака, рэалізаванага з цыстэрнаў.

Як паказалі вынікі праверкі рынкаў і аб'ектаў дробнарознічнага гандлю, на сённяшні дзень груба парушаюцца санітарныя патрабаванні, што прад'яўляюцца да гандлю малаком і малочнымі прадуктамі. Малочныя прадукты дапускаюцца да продажу без дакументаў, якія пацвярджаюць іх бяспеку і якасць, малако і малочныя прадукты рэалізуюцца ў непрыстасаваных месцах, павільёны не абсталяваны для продажу малака, парушаюцца санітарныя і ветэрынарныя патрабаванні пры продажы малака і малочных прадуктаў на рынках у частцы забеспячэння гарантый іх якасці і бяспекі. Прынятая мера будзе адменена ў выпадку ліквідацыі ўсіх вышэйпералічаных парушэнняў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### КНІГА — НАЙПЕРШАЯ ПРЫМЕТА ЦЫВІЛІЗАВАНАСЦІ

**Работнікі прафсаюзных і ведамасных бібліятэк звяртаюцца да кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў рэспублікі, старшынь прафсаюзных камітэтаў. У звароце адзначаецца, што агульны эканамічны крызіс, сацыяльная напружанасць, значнае зніжэнне жыццёвага ўзроўню большасці насельніцтва Беларусі прывяло да таго, што культурна-асветныя ўстановы, асабліва бібліятэкі, аказаліся пад пагрозай ліквідацыі.**

Бібліятэкі, якія існуюць на прадпрыемствах, закрываюцца ці пераводзяцца на работу на грамадскіх пачатках, бібліятэчныя работнікі скарачаюцца, кніжныя фонды расцягваюцца або прадаюцца за бесцань, не выдзяляюцца сродкі нават для падпіскі на асноўныя перыядычныя выданні.

І ў той жа час, адзначаецца ў звароце, бібліятэкі на прадпрыемствах засталіся ледзь не адзінымі даступнымі крыніцамі культуры і інфармацыі. Бо сёння многім не па кішэні набыць цікавую кнігу, выпісаць газету ці часопіс.

Разумеючы ўсю складанасць цяперашняй эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы, удзельнікі звароту, тым не менш, хацелі б звярнуць увагу грамадскасці на тыя негатыўныя працэсы, што пачалі актыўна развівацца ў сферы культуры.

### НА СТАЛІНШЧЫНЕ ЧАКАЮЦЬ ВЯСНУ З ТРЫВОГАЙ

**Сёлетняя зіма, багатая на маразы і вялікі снег, якіх на Беларусі даўно ўжо не бачылі, спачатку не магла не радаваць. Але вось на Палессі гэткая зімняя шчодрасць, асабліва напярэдадні вясны, выклікае хутчэй занепакоенасць, чым радасць.**

Там ужо горкім вопытам людзі навучаны, што вялікі снег узімку можа абярнуцца вялікай паводкай увесну. А што такое паводка, якую бяду яна нясе, палешукі таксама не раз на сабе зведалі. Таму няма нічога дзіўнага, што пра чакаемую паводку загаварылі ўжо зараз.

Першай устрывожылася Столішчына. Як вядома, па яе землях працякаюць аж тры буйныя ракі, ад якіх заўсёды можна чакаць непрыемнасцей: Прыпяць, Гарынь і Маства. Гідраметэаслужба, на жаль, не абнадзейвае, а паведамляе, што ў басейне Прыпяці выпала снегу гэтай зімой у паўтара раза больш за норму. Тым часам ва ўкраінскіх Карпатах, дзе збірае талыя воды Гарынь, толькі за апошні тыдзень выпала 150 сантыметраў снегу.

З гэтай нагоды ў Століне адбылося пасяджэнне камісіі райвыканкома па надзвычайных сітуацыях, дзе размова ішла менавіта пра падрыхтоўку да магчымых udараў стыхіі. Першыя рашэнні носяць пераважна рэкамендацыйны характар. Камісія раіць ужо зараз мясцовым гаспадаркам і жыхарам вывозіць з небяспечных месцаў запасы кармоў, дроў, будаўнічых матэрыялаў. Адпаведным службам прапанавана праверыць стан водаахоўных дамбаў і пры неабходнасці падсыпаць іх пяском ці адрамантаваць, пачаць прафілактыку і ачыстку гідратэхнічных збудаванняў, якіх у раёне налічваецца больш за тысячу адзінак. Адначасова прадпрыемствам гандлю рэкамендавана назапашваць у падтапляемых населеных пунктах прадукты і гаспадарчыя тавары, сувязістам і энергетыкам таксама прапанавана назапасіць матэрыялы, якія могуць спатрэбіцца падчас аднаўленчых работ.

Хаця мясцовых жыхароў наўрад ці трэба лішні раз папярэджваць: кожны і так разумее магчымую небяспеку і па-свойму рыхтуецца яе сустрэць. Прычым з уласцівай палешукам вытрымкай, не паддаючыся паніцы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*ЦЭНЫ*

### ХАРЧАВАННЕ Ў ЦАНЕ НЕ ЗАТРЫМЛІВАЕЦЦА

Згодна з інфармацыяй, атрыманай у Камітэце цэн пры Міністэрстве эканомікі, за другі тыдзень лютага былі зарэгістраваны наступныя змяненні мінімальных рознічных цэн у магазінах рознічнага гандлю, спецыяльна выбраных для назірання за цэнамі.

Так, высокі рост (18,2 працэнта) рознічных цэн на батоны з пшанічнай мукі першага гатунку ў Магілёўскай вобласці тлумачыцца адменай дэкларавання адпускных цэн на булачныя вырабы ў вобласці ў сувязі з вывядзеннем хлебазаводаў з рэестра прадпрыемстваў-манапалістаў. Вытворчае аб'яднанне «Магілёўхлебпром» самастойна павялічыла адпускныя цэны на батоны з улікам росту заработнай платы на 50 працэнтаў у параўнанні са снежнем, аўтатранспартных паслуг — на 30 працэнтаў і давядзеннем планавай рэнтабельнасці да нарматыўнага ўзроўню 10 працэнтаў ад сабекошту супраць 1 працэнта па справаздачы за студзень бягучага года.

Імклівае павышэнне рознічных цэн на макаронныя вырабы ў Мінску (24,7 працэнта) звязана са змяненнем асартыменту ў пастаўках прадукцыі і наяўнасцю ў рознічным гандлі на дзень рэгістрацыі макаронных вырабаў іншых гатункаў па мінімальных цэнах.

Штомесячнае павелічэнне адпускных цэн на макаронныя вырабы па Барысаўскай макароннай фабрыцы ў сувязі з павелічэннем кантрактных цэн на прывазную пшаніцу складае каля 8 працэнтаў. Аналагічныя павелічэнні назіраюцца і на пшанічную муку.

Павелічэнне рознічных цэн за другі тыдзень лютага назіралася на малочную прадукцыю ў Гомельскай вобласці (2,6 —5,6 працэнта), масла ў Мінскай (6,7), сыры цвёрдыя ў Брэсцкай (8,1), Гродзенскай абласцях (9), г.Мінску (9,6 працэнта), што тлумачыцца ўключэннем у адпускныя цэны прадпрыемстваў- вытворцаў студзеньскага павелічэння закупачных цэн на малако.

Па астатніх таварах адсочваліся кан'юнктурныя змяненні рознічных цэн, што звязана, найперш, з паступленнем у гандлёвую сетку тавараў іншых найменняў і гатункаў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 63*

**Аб зацвярджэнні Палажэнння аб Прэзідэнцкім савеце і Палажэння аб Савеце кіраўнікоў мясцовых органаў выканаўчай улады пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь**

У мэтах удасканалення арганізацыі дзейнасці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь як кіраўніка дзяржавы і павышэння эфектыўнасці работы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць прыкладаемыя:

Палажэнне аб Прэзідэнцкім савеце;

Палажэнне аб Савеце кіраўнікоў мясцовых органаў выканаўчай улады пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

2. Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сумесна з Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін унесці прапановы па персанальнаму саставу Прэзідэнцкага савета і Савета кіраўнікоў мясцовых органаў выканаўчай улады пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з моманту яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*12 лютага 1996 г., г. Мінск.*

### У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў адобрыць і накіраваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь для прадстаўлення на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет пагадненне паміж урадам нашай рэспублікі і ўрадам Сірыйскай Арабскай Рэспублікі аб паветраных зносінах, падпісанае ў Дамаску 15 кастрычніка 1995 года.

* * *

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах каардынацыі міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва, у рамках якога міжнародныя арганізацыі і замежныя дзяржавы па запыту Рэспублікі Беларусь перадаюць ёй на бязвыплатнай аснове перадавыя вопыт і веды пры дапамозе аказання кансультатыўных паслуг, правядзення экспертных ацэнак, навучання спецыялістаў, распрацоўкі бізнес-планаў, рэалізацыі пілотных праектаў, прыняў адпаведную пастанову.

Утварыць, гаворыцца ва ўказанай пастанове, Камісію па пытаннях міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь (далей — Камісія).

Лічыць асноўнымі задачамі Камісіі:

вызначэнне прыярытэтных напрамкаў міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва;

фарміраванне нацыянальнай праграмы міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва;

каардынацыю стратэгічнай дзейнасці міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, іншых цэнтральных органаў кіравання па развіццю міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва.

Міністэрству эканомікі даручана:

ажыццяўляць каардынацыю кіравання праграмамі і праектамі міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва;

прадугледжваць раздзел аб міжнародным тэхнічным супрацоўніцтве ў штогадовых прагнозах сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай рэспублікі;

арганізаваць сістэматычны ўлік праграм і праектаў міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва, стварыць бібліятэку справаздач аб іх выкананні і ўстанавіць парадак яе выкарыстання.

Міністэрству замежных спраў дадзена даручэнне сістэматычна праводзіць работу па расшырэнню міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва.

Міністэрству эканомікі сумесна з міністэрствамі замежных спраў, фінансаў, знешніх эканамічных сувязей, юстыцыі, статыстыкі і аналізу, адукацыі і навукі, Дзяржаўным мытным камітэтам, Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыяй пры Кабініце Міністраў, Акадэміяй навук Беларусі, іншымі зацікаўленымі неабходна ў двухмесячны тэрмін унесці ў Кабінет Міністраў праект палажэння аб Камісіі, а таксама прапановы па яе персанальнаму саставу, аб парадку падрыхтоўкі і рэалізацыі праграм і праектаў міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва і праект палажэння аб рэжыме нацыянальнага выканання для праграм і праектаў міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва, фінансуемых установамі ААН.

Кабінет Міністраў прыняў прапанову Міністэрства працы, узгодненую з Міністэрствам замежных спраў, іншымі зацікаўленымі міністэрствамі і цэнтральнымі органамі кіравання, аб заключэнні пагаднення паміж урадам нашай рэспублікі і ўрадам Рэспублікі Казахстан аб працоўнай дзейнасці і сацыяльнай абароне грамадзян Беларусі, якія працуюць на тэрыторыі Рэспублікі Казахстан, і грамадзян Казахстана, якія працуюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

На падпісанне ад імя ўрада Рэспублікі Беларусь указанага пагаднення ўпаўнаважаны міністр працы Аляксандр Сасноў.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...НАБЫЦЬ ТАВАР ПА РЭКЛАМЕ

**Не сакрэт, што зараз многія камерцыйныя фірмы замест вытворчасці займаюцца справай куды больш прыбытковай і нябруднай: перапродажам самай разнастайнай прадукцыі — ад калготак да ракетнага паліва.**

Патэнцыяльнага пакупніка пры гэтым «карабейнікі» прываблiваюць рэкламай накшталт «нашы цэны — ніжэй за рыначныя». Сустракалі? Бывае, слязу нават пусціць хочацца, калі чуеш або чытаеш гэтыя словы: паўсюдна цэны імкліва рвуцца ўверх, а тут людзі свядома церпяць страты, абы толькі дагадзіць пераборліваму пакупніку!.. З іншага боку, мяркую, мецэнатамі айчынных спажыўцоў гэтых дзялкоў называць ніхто не стане. У чым жа тады справа?

На думку кампетэнтных спецыялістаў, рэклама тавараў большасці такіх фірмаў сапраўды не больш чым... рэклама. Штучнае паніжэнне цэн выклікана не клопатам аб пакупніку, а тым, што знізіліся, напрыклад, адпускныя цэны на пэўны від прадукцыі на прадпрыемстве, якое яе выпускае. Але гэта разумеюць і ведаюць зусім нямногія людзі.

Магчымы і іншыя варыянты. Набыўшы тавар па нейкай цане, фірма, якая займаецца перапродажам, устанаўлівае свае значна завышаныя надбаўкі. Цяпер можна і скідку зрабіць — да цаны, якая крыху большая за тую, па якой тавар набывалі ў вытворцаў. Як кажуць, двух зайцаў застрэлілі: і самі не пацярпелі, і «зніжэнне» правялі. Калі вы не хочаце плаціць свае грошы гэткім дзялкам-махлярам, раю звяртацца непасрэдна да вытворцаў. Зразумела, і тут могуць узнікнуць цяжкасці (далёкая адлегласць, транспартныя выдаткі), але гэтыя праблемы кожны вырашае сам.

У якасці прыкладу карэспандэнт «Звязды» высветліў узровень свабодных адпускных цэн на прадпрыемствах па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў.

Так, Мінскі завод гіпсу і гіпсавых будаўнічых дэталяў прапаноўвае лісты гіпсакардонныя па цане 16.140 —19.830 рублёў, пліты гіпсавыя для перагародак — па 63.080 рублёў, пліты літыя дэкаратыўныя — па 60.660 рублёў за квадратны метр.

АП «Ваўкавыскцэменташыфер» прадае вапну па цане 398.400 —459.900 рублёў за тону, трубы і муфты асбестацэментныя па 32.559.100 рублёў за кіламетр умоўнай трубы. На ВА «Крычаўцэментшыфер» вы зможаце набыць шыфер па цане 21.350 —22.000 рублёў за ліст, цэмент — 161.800 за тону; на віцебскім ВА «Кераміка» цэгла пустацелая і вонкавая — адпаведна 914.000 —974.000 і 1.200.400 —1.280.000 рублёў за кожную тысячу штук. На гэтым спіс, зразумела, не заканчваецца, але хто шукае — той знаходзіць?!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ

# Не раз'ехаліся «Форд» і МТЗ...

ЗАПАВЕТНАЯ МАРА кіраўніцтва нашай краіны наладзіць у нас выпуск легкавых аўтамабіляў — як ранейшага (прыгадаем адпаведныя абяцанні кебічаўскага ўрада), так і цяперашняга, здаецца, усё ніяк не набудзе пад сабой цвёрдай глебы...

У іншых сродках масавай інфармацыі паведамлялася ўжо наконт канфлікту вакол фордаўскага праекта — сумеснай вытворчасці па выпуску аўтамабіляў «Форд» у Апчаку пад Мінскам. Нагадаем вытокі гэтага канфлікту. Яшчэ летась падчас візіту ўрадавай дэлегацыі ў ЗША быў падпісаны адпаведны мемарандум, які пакладзены ў аснову праекта. У хуткім часе праект быў разрэкламаваны, грамадскасць сустрэла яго добразычліва. З цягам часу стала вядома, што пад яго рэалізацыю адводзіцца тэрыторыя, якая занята пабудовамі (многія з іх не завершаны, наконт чаго ніжэй) Мінскага трактарнага завода. Прадстаўнікам амерыканскай фірмы прапанавалі на выбар некалькі пляцовак, але яны выбралі менавіта трактаразаводскую, у Апчаку, плошчай 54 га.

На гэтай пляцоўцы яшчэ каля 10 гадоў назад МТЗ распачаў будаўніцтва новай доследна-палявой базы для выпрабавання трактароў (побач са сваёй жа існуючай выпрабавальнай станцыяй). Быў запраектаваны комплекс збудаванняў, корпус паскораных стэндавых выпрабаванняў, кальцавыя трэкі для так званых цягавых выпрабаванняў трактароў, вытворчая база будаўніцтва (з мэтай наступнага выкарыстання яе ў якасці разменных плошчаў пры рэканструкцыі цэхаў галаўнога прадпрыемства ў Мінску), адзін з новых цэхаў — № 11, кацельня і г. д. Некаторыя пабудовы ўзведзены (у прыватнасці — новы цэх, які працуе), але большая частка — не. Як зразумела ўжо, новы выпрабавальны комплекс — «даўгабуд». Па розных ацэнках, якія зроблены прадстаўнікамі «знешніх» ведамстваў і спецыялістамі завода, будаўнічая гатоўнасць комплексу складае, адпаведна, 50 і 70—80 працэнтаў, на яго патрэбна, адпаведна ж, каля 7 мільёнаў долараў (ацэнка «збоку») і 3-4 мільярды рублёў (ацэнка заводскіх спецыялістаў).

Паводле сведчання спецыялістаў, заводам затрачана на ўзвядзенне новага прамысловага вузла 100 мільярдаў рублёў у дзеючых цэнах, у тым ліку 20 мільярдаў рублёў — на набыццё стэндавага абсталявання, якое ляжыць на складзе ў тым жа Апчаку.

Як расказваюць на прадпрыемстве, МТЗ у адзін цудоўны дзень, у канцы года, быў пастаўлены перад фактам: ён павінен вызваліць займаемую пляцоўку і аддаць яе (з усёй інфраструктурай і збудаваннямі новага комплексу) «Форду». У якасці кампенсацыі завадчанам, як паведамілі яны, прапаноўваецца 20 працэнтаў акцый фордаўскай вытворчасці. Але, па іх жа словах, у прыватнасці — словах генеральнага канструктара, на першым этапе прадугледжваюцца інвестыцыі ў суме 2 мільёнаў долараў, і, значыць, прапанаваная кампенсацыя складзе мізэр у параўнанні з укладзенымі сродкамі.

Ну, а як жа быць завадчанам з развіццём сваёй выпрабавальнай базы (між іншым, існуючая выпрабавальная станцыя яўна не ўражвае, хіба, можа, за выключэннем асобных аб'ектаў)?

Ім прапануюцца (Міністэрствам прамысловасці) два варыянты пераносу цэха і выпрабавальнай базы з Апчака ў іншыя месцы, пры гэтым, па разліках спецыялістаў завода, адзін з іх патрабуе новых затрат у суме каля 212 мільярдаў рублёў, а другі — у суме каля 163 мільярдаў.

Як даводзіць кіраўніцтва МТЗ, усё, што рабілася па рэалізацыі гэтага праекта, — рабілася без удзелу саміх завадчан, яны нават і не здагадваліся, што іх аб'ект ужо амаль закладзены. Па сведчанні генеральнага канструктара М. Мялешкі, калі на заводзе даведаліся аб гэтым, выявілася, што інстытут «Белпрампраект», які раней распрацаваў праект дадзенага выпрабавальнага комплексу для трактарабудаўнікоў, ужо «размясціў» на месцы ўзводзімага комплексу аб'ект іншага прызначэння па заказу «Форда» і нават атрымаў за выкананую работу аванс.

Такім чынам, вытокі канфлікту зразумелыя. Як ацэньваюць гэту сітуацыю зацікаўленыя бакі?

**В. ЛЯОНАЎ, генеральны дырэктар МТЗ:**

— Калектыў не супраць «Форда» і інвестыцый, але навошта нішчыць завод? Няхай будуць і «Форд», і МТЗ, але не «Форд» за кошт МТЗ. Няхай узводзяць вытворчасць аўтамабіляў у Смаргоні, дзе размешчаны наш філіял, або тут жа, у Апчаку, побач з нашай выпрабавальнай станцыяй, пры гэтым мы не супраць таго, каб выкарыстоўвалі нашы інжынерныя збудаванні. Карыстальнік зямлі пад станцыяй — МТЗ, але ў нас нават не спыталіся ні пра што. Тым часам на мяне аказваецца ўзмоцнены націск, каб я падпісаў адпаведны дакумент аб адчужэнні зямлі. Нягледзячы на Закон аб прадпрыемствах, на рашэнні ўлады, што прыватызацыя, іншыя змены адносінаў уласнасці праводзяцца толькі са згоды працоўных калектываў.

В. Ляонаў зазначыў, што і рашэння старога кіраўніцтва завода (В. Ляонаў прызначаны генеральным МТЗ адносна нядаўна) наконт перадачы пляцоўкі таксама не было.

На яго думку, на тое, каб давесці ўзвядзенне выпрабавальнага комплексу да лагічнага канца, сілы і сродкі знойдуцца. Але пры ўмове, што дзяржава будзе весці палітыку, скіраваную на тое, каб прадпрыемствы маглі накапляць сродкі, сёння ж гэта палітыка — чыста фіскальная. Разам з тым, па словах генеральнага дырэктара, на дадзеным этапе дзяржава павінна падтрымаць завод ільготнымі крэдытамі. Тым больш сітуацыя патрабуе ўкаранення новай формы ўзаемаадносінаў з пакупнікамі прадукцыі — лізінгавай, як на Захадзе. Без накаплення абаротных сродкаў, якіх цяпер няма, пры гэтым не абысціся.

Пераважна для чаго патрэбны новы, сучасны выпрабавальны комплекс трактароў? Сённяшні дзень дыктуе быць надзвычай апeратыўнымі ў тэхнічнай палітыцы, выпускаць шырокую гаму разнастайнай тэхнікі, прычым, нярэдка малымі партыямі. Стэндавыя выпрабаванні, якія праходзілі б амаль адначасова з праектаваннем новых машын, дазволілі б значна скараціць тэрміны падрыхтоўкі іх да выпуску. «Мы не павінны спазняцца на 15 гадоў, а на 5 гадоў апярэджваць», — зазначыў В. Ляонаў, маючы на ўвазе канкурэнтаў і рынак.

МТЗ, як перакананы яго генеральны, здольны пераадолець цяперашнія цяжкасці і скласці добрую канкурэнцыю трактарабудаўнікам іншых краін, здольны зарабляць для краіны валюту. Будучыня МТЗ, па словах В. Ляонава, — гэта вытворчасць трактароў рознага прызначэння ад 5 да 210 конскіх сіл (прычым, будаўніцтва на новай пляцоўцы патрэбна таксама і для наладжвання там вытворчасці арыгінальных вузлоў 120-, 130-, 150-, 180- і 210-сільных трактароў). Бліжэйшая перспектыва МТЗ — нарошчванне вытворчасці да 1 мільярда долараў у год (у мінулым годзе было 2,5 трыльёна рублёў). Гэта, па словах жа кіраўніка прадпрыемства, дасць 1,5 трыльёна рублёў у бюджэт.

В. Ляонаў таксама нагадаў, што на МТЗ працуе каля 25 тысяч чалавек, у цэлым яго дзейнасць забяспечвае жыццё 500 тысяч чалавек у рэспубліцы.

Згодна з меркаваннем як В. Ляонава, так і іншых спецыялістаў завода, трактарабудаўнікі на Захадзе бачаць у МТЗ аднаго са сваіх асноўных канкурэнтаў на рынках збыту і выношваюць у сувязі з гэтым адпаведныя планы. Пры гэтым на заводзе падкрэслівалі: МТЗ уваходзіць у лік вядучых у свеце прадпрыемстваў па колькасці продажу трактароў. Адмова ад выпрабавальнага комплексу і найперш — ад стэндавых выпрабаванняў або перанос і разгортванне іх у іншых месцах цягнуць за сабой, як мяркуе кіраўніцтва завода, спазненне МТЗ на некалькі гадоў у падрыхтоўцы да выпуску новай тэхнікі і страту штогод 60 мільёнаў долараў.

**В. ПЯЧКОЎСКІ, галоўны інжынер АТ «Белпрампраект»:**

— Маё меркаванне супадае з тым меркаваннем, якое ўжо прагучала ў некаторых сродках масавай інфармацыі.

Я — за ўзвядзенне вытворчасці «Форда» на пляцоўцы МТЗ. Іншая справа — дрэнна, што завод не ўдзельнічаў у абмеркаванні пытання недзе на першым этапе. Ужо потым было адпаведнае пісьмо на МТЗ з Міністэрства прамысловасці. Першая чарга на гэтай пляцоўцы прадугледжвае зборку аўтамабіляў, а ў перспектыве, калі будзе збыт, — будуць размешчаны кузаўная і фарбавальная вытворчасці. Зборачная вытворчасць намечана ў цяперашнім цэху МТЗ № 11 у Апчаку, які прызначаўся для выпуску мотаблокаў — адпаведны вытворчы корпус якраз адпавядае пэўным патрабаванням. А ў корпусе, які намечаны пад паскораныя стэндавыя выпрабаванні, намечана размясціць складскія памяшканні, прычым пад іх адводзіцца палова корпуса. Гэты корпус узводзіцца з 86-га года, паводле даных падрадчыка, там выканана толькі каля 50 працэнтаў будаўніча-мантажных работ. Набытае абсталяванне — гэта таксама далёка не ўсё абсталяванне, якое патрэбна.

У завода няма грошай. Раней завадчане (стары дырэктар) нават прасілі нас, каб мы дапамаглі ім знайсці гаспадара на гэтыя збудаванні, каб ён купіў іх. Быў і іншы план: перапрафіляваць корпус паскораных выпрабаванняў у цэнтр па перадпрадажнай падрыхтоўцы трактароў. Чаму тады не абаранялі?

«Белпрампраект» некалі выконваў усю дакументацыю па гэтай пляцоўцы для МТЗ, а цяпер зрабілі дакументацыю па той жа пляцоўцы для іншага заказчыка. Але гэта пакуль тэндэрная дакументацыя, у якой паказваюцца асноўныя тэхнічныя рашэнні, што дазволіць будучаму падрадчыку рэальна ацаніць тэрміны выканання неабходных работ і іх кошт. Аб поўным жа праекце размовы пакуль не было. Работа выканана па дагавору з «Фордам». Колькі каштуе дагавор — камерцыйная тайна, скажу толькі: для нас гэта невялікі аб'ём.

Чаму «Форд» не бярэ голую пляцоўку? Яны ставілі жорсткія ўмовы. Была дамоўленасць: наш бок прадастаўляе гатовыя збудаванні, каб ужо ў хуткім часе можна было наладзіць вытворчасць, прычым, наш бок больш нічога не ўкладвае. На аўтазборачнай вытворчасці намечана выпускаць новыя мадэлі легкавога аўтамабіля «Форд-Эскорт» і мікрааўтобуса «Форд-Транзіт», іх выпуск адначасова наладжваецца і ў ЗША. Гадавы аб'ём першай чаргі плануецца на ўзроўні 5—15 тысяч.

Ці патрэбны трактарабудаўнікам стэндавыя выпрабаванні? У прынцыпе, патрэбны. Але варта зыходзіць з існуючага фінансавага становішча.

**Г. ПАДКУРАЎ, начальнік упраўлення знешнеэканамічных сувязей Міністэрства прамысловасці:**

— Калі б у завода існаваў выпрабавальны комплекс поўнасцю, у гатовым выглядзе, і пытання не было б, ніхто яго і пальцам не крануў бы. Колькі ўжо будуюць... І ці будуць працягваць гэта будаўніцтва — у завода шмат іншых праблем? Яны спадзяюцца на дзяржаўную падтрымку, але ж і ў дзяржавы дастатковых сродкаў няма.

Многія выпрабавальныя работы можна праводзіць на асноўных плошчах, тым больш, на МТЗ згортваецца вытворчасць.

Сумна, што адны б'юцца за інвестараў, а другія б'юцца за тое, каб яны не прыйшлі. Між іншым, МАЗ гатовы хоць зараз на любы від сумеснай дзейнасці, але ж у яго няма перспектывы развіцця з-за адсутнасці плошчаў.

Нам патрэбен гэты інвестар, каб за ім іншыя пайшлі. Гэта выгадная справа для рэспублікі. «Форд» вызваляецца на 5 гадоў ад падатку на прыбытак, але будуць ісці іншыя падаткі (у адпаведнасці з Законам аб СП), якія застануцца ў Беларусі. Акрамя таго, у нас застанецца частка прадукцыі (доля «Форда» — 51 працэнт); мы можам выкарыстоўваць пры рэалізацыі дылерскую сістэму «Форда», будуць заказы для нашых іншых прадпрыемстваў на камплектуючыя...

***Такія вось прагучалі меркаванні, з дапамогай якіх можна скласці больш поўную карціну і якія сведчаць аб тым, што дадзеная сітуацыя далёка не простая, не адназначная. І, відаць, выйсці з яе без пэўных страт ужо нельга. Аб магчымых стратах трэба было думаць раней. У выніку аказаліся проціпастаўленымі, з аднаго боку, інтарэсы калектыву, добра вядомага не толькі ў нашай рэспубліцы, з другога — яе інвестыцыйны імідж, які і без гэтай гісторыі сур'ёзна падарваны. Ды і гэткія пажаданыя замежныя інвестыцыі — вось яны... Чым ахвяраваць, як выйсці з гэтай сітуацыі з найменшымі стратамі?***

***Можна адмахнуцца ад прэтэнзій трактарабудаўнікоў: прадпрыемства ж дзяржаўнае, а ўсе работнікі на ім наёмныя, у тым ліку і генеральны дырэктар. Карацей, дзяржава можа абысціся з гэтай уласнасцю так, як яна палічыць патрэбным, не пытаючыся ў калектыву. Вядома, абысціся з улікам агульнадзяржаўнага інтарэсу... Але спытаць, хто ў нас звычайна вызначае гэты агульнадзяржаўны інтарэс? Адзін-два чалавекі (між іншым, яны таксама на службе ў дзяржавы), меркаванне якіх і выдаецца за самае аб'ектыўнае, якія, звычайна ж, потым ні за што не адказваюць? Нават у тым выпадку, калі няправільна вызначылі. (Адпаведных прыкладаў дастаткова...) І чаму загадзя меркаваць, што ў калектыве вызначаць гэты інтарэс горш? Толькі з-за таго, што там надзелены меншай уладай? Між іншым, і рашэнне аб узвядзенні выпрабавальнага комплексу прымалася ў свой час не на ўзроўні калектыву...***

***Зрэшты, гэта — больш агульныя развагі. Яны, тым не менш, маюць на ўвазе максімальную ўзважанасць пры прыняцці канчатковага рашэння, падключэння да яго вынясення шырокага кола экспертаў. Пры гэтым варта ўлічваць ужо добра пастаўленую ў рэспубліцы, прызнаную іншымі краінамі галіну трактарабудавання, яе намнога большы, чым іншых галін, экспартны патэнцыял. Цяперашняе незайздроснае фінансавае становішча МТЗ нельга аднесці толькі на рахунак калектыву — яно наступіла і ў выніку той жа чыста фіскальнай падатковай палітыкі дзяржавы, і ў выніку знакамітага клірынгу, калі МТЗ сваёй прадукцыяй, па сутнасці, разлічваўся за даўгі дзяржавы ж. Разам з тым, трэба ўлічваць і тое ж фінансавае становішча прадпрыемства, адсутнасць сродкаў, малую верагоднасць таго, што спрэчны даўгабуд, нягледзячы на запэўніванні спецыялістаў МТЗ, ужо ў хуткім часе будзе ўведзены ў строй (знаёмства з ім аптымізму яўна не дадае); улічваць тое, што сродкаў няма і ў дзяржавы, якія крайне неабходны ёй на цыраванне шматлікіх дзірак... Крытэрыем у гэтай спрэчцы і павінна стаць тое, у якім выпадку дзяржава найхутчэй атрымае неабходныя ёй сродкі. Вядома, пры гэтым павінны быць забяспечаны найбольшыя максімальныя аб'ектыўнасць і абгрунтаванасць, пры гэтым сутнасць справы, магчымасць найбольшай і найхутчэйшай аддачы, дакладна вызначаную эканамічную выгаду не павінны засланіць ні ранейшыя (і існуючыя) сімвалы (накшталт таго, што па МТЗ ведаюць Беларусь), ні наймаднейшыя аўтамабільныя павевы. Гэта, па сутнасці, быў бы і чыста рынкавы падыход.***

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## ПРАДСТАЎНІКІ КАМПАНІІ «ФОРД» АЦАНІЛІ ТЭХНІЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ БЕЛАРУСІ

**16 лютага завяршыўся візіт у Беларусь прадстаўнікоў кампаніі «Форд».**

Мэтай візіту спецыялістаў па стратэгіі паставак «Форда» спадара Йоахіма Брыста і спадарыні Ірэн Косак было вывучыць тэхнічны патэнцыял рэспублікі, узровень тэхналогіі, станочны парк рэспублікі. Пасля азнаямленчага візіту прадстаўнікоў кампаніі, магчыма, у Беларусь завітаюць вузкія спецыялісты — ужо з прапановамі.

На працягу чатырох дзён сп. Брыст і сп. Косак наведалі шэраг прадпрыемстваў — вытворцаў камплектуючых для аўтатрактарнай тэхнікі з мэтай размяшчэння заказаў кампаніі. Сярод прадпрыемстваў, якія прэтэндуюць на ўдзел у асваенні выпуску аўтамабіля «Форд», — МАЗ, ВА «БелВАР», мінскія рысорны, маторны заводы, завод шасцерань, а таксама Барысаўскі завод пластмасавых вырабаў, аўтатрактарнага электраабсталявання, агрэгатаў і завод «Аўтагідраўзмацняльнік».

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*НАПЯРЭДАДНІ*

## ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, 28 ЛЮТАГА ЎСЕ ПРАФСАЮЗЫ БЕЛАРУСІ ВЫСТУПЯЦЬ РАЗАМ

Як вядома, Асацыяцыя незалежных прафсаюзаў сумесна з двума галіновымі прафсаюзамі — работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання і работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці — запланавала на 28 лютага правядзенне ў беларускай сталіцы акцый у абарону правоў працоўных. Патрабаванні вылучаюцца эканамічныя, сярод іх — спыніць затрымкі выплаты заработнай платы, прывесці яе ў адпаведнасць з ростам цэн, а таксама адмяніць урадавую пастанову ад 21 снежня мінулага года, якая ўводзіць абмежаванні па зарплаце на прамысловых прадпрыемствах. Зразумела, што пытанне, якія памеры набудуць запланаваныя акцыі, шмат у чым будзе залежаць ад стаўлення да ініцыятывы трох вышэйпамянёных прафсаюзаў іншых прафсаюзных аб'яднанняў краіны — Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і Свабоднага прафсаюза Беларускага.

Як паведаміў у гутарцы з нашым карэспандэнтам намеснік старшыні Свабоднага прафсаюза Павел Майсіевіч, канчатковае рашэнне аб удзеле СПБ у працоўных выступленнях будзе прынята 24 лютага. Але ўжо зараз можна сцвярджаць, што яно будзе станоўчым. Больш таго, на думку сп. Майсіевіча, наступнай вясной на Беларусі, па аналогіі з Расіяй, пачнецца масавая хваля забастовак. Цяперашнюю прапанову Незалежных прафсаюзаў аб сустрэчы працоўных з народнымі дэпутатамі на сталічнай плошчы Незалежнасці намеснік Свабоднага прафсаюза расцэньвае адназначна — як першую ластаўку.

На думку сакратара выканкома Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Валянціны Палевіковай, у намерах Незалежнага і двух галіновых прафсаюзаў няма нічога процізаконнага. Таму не выключана, што ФПБ прыме рашэнне аб падтрымцы акцый. Праўда, у якой форме, стане вядома толькі пасля пасяджэння прэзідыума федэрацыі, якое, дарэчы, адбудзецца сёння.

Аб выніках нарады ў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі «Звязда» паведаміць сваім чытачам у наступным нумары. Пакуль жа відавочна: 28 лютага на вуліцы сталіцы могуць выйсці прыхільнікі ўсіх трох прафсаюзных аб'яднанняў Беларусі.

**Сяргей ГРЫБ.**

# Сямён ШАРЭЦКІ:

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ» «ЗВЯЗДЫ»

# «НАРОД ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ ПРАЎДУ, ЯКОЙ БЫ ГОРКАЙ ЯНА НІ БЫЛА»

***Бюджэт краіны з'яўляецца важнейшым паказчыкам яе жыццядзейнасці. Заканчваецца ўжо другі месяц года, а жыхары Беларусі не маюць звестак ні аб выкананні бюджэту мінулага года, так і не знаёмы з яго праектам на 1996 год. Стварaецца ўражанне, што бюджэт рэспублікі існуе толькі для Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і Ўрада Беларусі. Пракаменціруйце, калі ласка, гэтую сітуацыю.***

***Другое. Ці будзе ў 1996 годзе выкананы артыкул 34 пункт 7 Закона аб адукацыі, у якім гаворыцца, што заработная плата выкладчыка вышэйшай навучальнай установы павінна быць у 1,5 раза вышэй, чым заработная плата спецыяліста ў прамысловасці, а зарплата настаўніка школы роўная зарплаце спецыяліста ў той жа прамысловасці?***

**С. ГУБАР, старшыня Беларускага свабоднага прафсаюза педагогаў.**

— Праект бюджэту на 1996 год павінен быў паступіць у Вярхоўны Савет рэспублікі да 1 лістапада. Такое патрабаванне нашага заканадаўства. Але мы атрымалі яго ажно на тры месяцы пазней. І, як вынік, Вярхоўны Савет затрымаўся з разглядам пытання, з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь аб бюджэце. Разглядаць яго паспешліва ніяк нельга: праблема надзвычай важная і сур'ёзная. Парламенцкія камісіі і фракцыі, асобныя дэпутаты вельмі адказна (і гэта правільна) паставіліся да пытання, падрыхтавалі і ўнеслі на разгляд сесіі мноства змяненняў і дапаўненняў. Так што бюджэт будзе прыняты, і існаваць ён павінен не для Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета ці Ўрада, а для Рэспублікі Беларусь. Проста патрэбен час, каб разгледзець, прыняць і зацвердзіць яго.

Заканамерна і тое, што напярэдадні разгляду пытання аб бюджэце Вярхоўны Савет звярнуўся да праблем удасканалення падатковага заканадаўства рэспублікі. Бо падаткі і бюджэт, як вы разумееце, — праблемы неразрыўныя. Прапаноў і тут было даволі шмат. І іх таксама грунтоўна прааналізавалі, супаставілі. Скажу так: гэтыя два пытанні для нашай сённяшняй рэчаіснасці вельмі і вельмі няпростыя.

Наконт другога пытання С. Губара. Так, Закон аб адукацыі, як і многія іншыя заканадаўчыя акты, у нас сёння выконваецца далёка не поўнасцю. І гэта, як кажуць у такіх выпадках, не столькі віна дзяржавы, колькі яе бяда. Сродкаў у дзяржаўнай казне няма, эканамічная сітуацыя пакуль што не стабілізуецца. Уключаць на друкарскі станок і выпускаць у абарачэнне «пустыя» грошы (а апошнім часам гэта рабілася неаднойчы) — вядома ж, нікому з нас непатрэбна. Так што трэба пацярпець, папрацаваць. Я асабіста пераканаы: выйсце са складанага становішча мы абавязкова знойдзем.

Апошнім часам усё часцей гучаць папярэджанні, а іншы раз і адкрытыя заклікі да забастовак, іншых акцый грамадзянскага непадпарадкавання. Карыстаючыся выпадкам, хачу папрасіць нашых грамадзян: кім бы і на якім бы ўчастку вы ні працавалі — не рабіце гэтага. Ні рэспубліка ў цэлым, ні кожны з нас асабіста ад гэтых акцый не пабагацее. Думаю, будзе лепш, калі сканцэнтруем мы сваё намаганні на канкрэтных справах, на рабочых месцах. Давайце жыць і дзейнічаць цывілізавана!

***Мяне цікавяць вашы адказы на наступныя пытанні:***

***1. На пасяджэннях Вярхоўнага Савета мінулага склікання з падачы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дэпутаты часта выступалі з абвінавачваннямі адзін аднаго ў крымінальных справах. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь практыкуе гэта і на пасяджэннях ВС цяперашняга склікання, калі бяздоказна абвінавачваюцца дэпутаты, якія потым у чымсьці павінны апраўдацца. Ці згодны вы, што нельга ператварыць Вярхоўны Савет у месца для такіх абвінавачванняў і трэба забараніць выступленні і дэпутатаў, і Прэзідэнта наконт гэтага, за выключэннем выпадкаў, калі маюцца пастановы органаў правасуддзя, што пацвярджаюць наяўнасць крыміналу ў дзеяннях дэпутатаў?***

***2. Што збіраецца рабіць Вярхоўны Савет у пытаннях выканання пастаноў і рашэнняў Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь? Якімі дакументамі трэба кіравацца: Указамі Прэзідэнта ці пастановамі Канстытуцыйнага суда, якія адмяняюць тыя артыкулы Указаў, што супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь? Я лічу, што гэта пытанне Вярхоўны Савет павінен вырашыць у першую чаргу.***

***3. Ці будзе разглядацца пытанне аб адмене забароны на друкаванне і распаўсюджванне тых выданняў, якія маюць свой пункт гледжання на падзеі ў краіне і адрозніваюцца ад поглядаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь?***

**Артур КРЭСІК, пенсіянер. г. Мінск.**



***Чаму не выконваецца рашэнне Канстытуцыйнага суда аб адмене Указа Прэзідэнта № 349 аб ільготах для пенсіянераў? Канкрэтна размова ідзе пра льготы для пенсіянераў — медыкаў з сельскай мясцовасці.***

**Іван УЛАСАВЕЦ, Бярэзінскі раён.**

***На якой падставе Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь адмяніў Законы рэспублікі, прынятыя Вярхоўным Саветам, адносна льгот пенсіянерам? Дык у якой дзяржаве мы жывём: прававой ці па законах джунгляў?! Чаму міністэрствы Рэспублікі Беларусь — жыллёва-камунальнай гаспадаркі, транспарту, сувязі і інфарматыкі, Белэнерга — не выконваюць пастановы Канстытуцыйнага суда аб адмене Указа Прэзідэнта? Калі, нарэшце, скончацца здзекі з боку кіруючых органаў дзяржавы над безабароннымі пенсіянерамі?***

**Мікалай АЛЯКСЕЙЧЫК, пенсіянер. г. Мінск.**

***Ці па-чалавечы аднесліся ўлады Рэспублікі Беларусь да неабгрунтавана рэпрэсіраваных у сталінскія часы людзей, калі цяпер, праз многа гадоў, адабралі ў іх, разам з невялікімі прывілеямі, апошнюю надзею быць людзьмі?.. Ні ў адной з дзяржаў СНД падобнага няма, і мне, як грамадзяніну Беларусі, вельмі сорамна за Прэзідэнта, Вярхоўны Савет, Кабінет Міністраў...***

**Л. ІВАНОЎ, г. Баранавічы.**

***Указам Прэзідэнта прыпынены льготы для рэабілітаваных ахвяр сталінізму. Як вы, паважаны Сямён Георгіевіч, глядзіце на гэты антычалавечы ўчынак?***

**В. МАРЦІНОВІЧ, г. Брэст.**

— Згодзен: абвінавачванні ў нейкіх крымінальных справах да таго ці іншага чалавека (і не толькі да дэпутата) павінны быць абгрунтаванымі, зробленымі на падставе заканадаўства. Калі ж яны гучаць у Авальнай зале Дома ўрада, гэта, натуральна, не ўпрыгожвае наш Вярхоўны Савет. А каб такіх выпадкаў не было, мы праводзім пэўную работу з дэпутатамі.

Што датычыцца рашэнняў Канстытуцыйнага суда, скажу наступнае. Ва ўсім цывілізаваным свеце галоўнымі законамі з'яўляюцца Канстытуцыі. Іншыя ж законы, указы не павінны супярэчыць ёй. Цяперашні Вярхоўны Савет зробіць усё, каб прывесці нашу заканадаўчую базу ў адпаведнасць.

Указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прымаліся ў час, калі Прэзідэнт лічыў, што Вярхоўнага Савета ў нас не было. Ён спрабаваў гэтымі ўказамі рэгуляваць тыя ці іншыя адносіны ў дзяржаве. Сёння ж Прэзідэнт ніякіх указаў адносна адмены ці прыпынення дзейнасці законаў не падпісвае і я спадзяюся, што мы будзем знаходзіць паразуменне з ім.

Вярнуся яшчэ раз да заканадаўства аб ільготах. Яно ў нас не дасканалае, прымалася паспешліва, без уліку эканамічных рэалій. Памятаеце, тады, год—два назад, ішла перадвыбарная кампанія, шмат што рабілася на хвалі абяцанняў. Пра гэта трэба сёння гаварыць. І не толькі гаварыць, а і неабходна вярнуцца да законаў.

Тое ж магу сказаць і пра льготы для ахвяр сталінізму. Дзяржава не павінна кампенсаваць ільготамі таму ці іншаму чалавеку нейкі там урон. Усё павінна ўлічвацца пры вызначэнні пенсій ці заработнай платы. Рынкавая эканоміка, якую мы хочам мець, супярэчыць ільготам. Таму ўсё будзе адрэгулявана, выпраўлена.

***У час перадвыбарнага марафону многія кандыдаты ў дэпутаты абяцалі дапамогу тым укладчыкам, якія сваім потам і крывёю дзесяцігоддзямі адкладвалі сваё зберажэнні на «чорны дзень». Інфляцыя ўсе зберажэнні знішчыла, нягледзячы на тое, што дзяржава абяцала тайну і цэласнасць укладаў. Дык вось, для многіх з нас «чорны дзень» ужо прыйшоў: мы часта хварэем і паміраем... Ці не час ужо дапамагчы пацярпеўшым і прыняць Закон аб індэксацыі ўкладаў? Выконвайце свае абяцанні, шаноўныя дэпутаты XIII склікання! Як вы, Сямён Георгіевіч, ставіцеся да пытання аб прыняцці такога закона?***

**Барыс МАРМЫШ, Нясвіжскі раён, г. п. Гарадзея.**

***Такога, мусіць, не было ні ў адной краіне свету, каб на ашчадный кніжцы ляжала грошай на машыну, а зараз не купіш за іх і 1 кілаграм каўбасы. Кажуць, дзяржава бедная, няма чым плаціць... Дык чаму ж так многа стала багатых у гэтай беднай дзяржаве?! А прасты чалавек, які не даядаў, не дасыпаў, каб сабраць які-небудзь рубель на «чорны дзень», цяпер усё страціў. Гэта ж поўны здзек з людзей. Адзін міністр выступаў і сказаў, што гэтыя нашы грошы з'елі Віскулі. Дык навошта ж былі тыя Віскулі, калі столькі гора яны прынеслі? А калі ж забралі так усё без нас, дык сумейце зараз і трымаць адказ. Мы не віноваты, што там у вас было, толькі нам аддайце ўсё, што ў нас было!***

**А. МОНІЧ, Іўеўскі раён, в. Лаздуны.**

***Апошнім часам пачаўся сапраўдны ажыятаж вакол падманутых укладчыкаў камерцыйных банкаў. А пагледзіце, што атрымалася з укладчыкамі дзяржаўных ашчадных кас?! Стварaюцца партыі, фонды па вяртанню ўкладаў. Але ж якім укладчыкам неабходна вярнуць грошы ў першую чаргу: тым, ад якіх дзяржава не атрымала нічога, ці тым, за кошт якіх была пабудавана дзяржава Беларусь?***

**М. СОЛТАН, г. п. Свіслач.**

— Так, падманутых укладчыкаў у нас сёння вельмі і вельмі многа. Хто і што канкрэтна абяцаў людзям у час перадвыбарнай кампаніі, — не ведаю: я асабіста гэтага не рабіў. Не рабіў па той простай прычыне, што добра ведаў і ведаю магчымасці нашай дзяржавы на сённяшні дзень. Калі ж краіна памацнее, тады, безумоўна, можна будзе аб нечым падумаць, пашукаць шляхі кампенсацыі ўкладаў. А цяпер абяцаннямі падманваць людзей ніяк нельга: у дзяржавы сродкаў проста няма.

***Ці згодны вы са сцвярджэннем аб тым, што чэкавая прыватызацыя — чарговы падман і рабаванне беларускага народа? Ці не прывядзе дзікая прыватызацыя да таго становішча, калі лозунг «Рабуй нарабаванае!» стане яшчэ больш актуальным, чым у 1917 годзе? Бо сутнасць цяперашняй прыватызацыі: тыя, хто меў і мае ўладу, — атрымліваюць маёмасць; беларускі ж народ у цэлым — чэкі на маёмасць (пустыя паперкі)...***

**Андрэй ЦІХАМІРАЎ, г.Мінск.**

***Ці будзе калі-небудзь беларускі народ жыць у дастатку пры такіх метамарфозах: раней (у складзе СССР) трацілі вялікія сродкі на ўзбраенне, а цяпер — на знішчэнне ўзбраенняў і ўтрыманне рускіх вайсковцаў (базы, жыллё, пенсіі)? А заўтра нас зноў уцягнуць у сістэму калектыўнай бяспекі СНД...***

***Чаму кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь не праяўляе сапраўдных клопатаў пра народ, а клапоціцца толькі аб невялікай частцы — прыхватызатарах?***

**Сяргей БЕНЯДЗІКТАЎ, пенсіянер, былы служачы. г. Мінск.**

***Маркуючы па ўсяму, няма ў нас талковых кіраўнікоў, здатных вывесці Беларусь з крызісу. Дык чаму б на пераходны перыяд не перадаць кіраванне рэспублікай пад апеку ААН?! Калі ж я не маю рацыі, то чаму ж тады ўлады не праследуюць тых асоб і арганізацыі, якія робяць антыбеларускія, антыканстытуцыйныя выказванні? Ці гэта і ёсць чыйсьці заказ?***

**Мікалай БАРЫСІК, г. Пінск.**

— Яшчэ ў той час, калі чэкавай прыватызацыі ў нас не было, а яна толькі-толькі набірала абароты ў Расіі, я катэгарычна выступаў у друку супраць яе. Тады я сцвярджаў, што гэта прыватызацыя спрые аднаму: каб пэўныя капіталы аселі ў адных руках, а пустыя паперкі — чэкі — дасталіся другім... Чэкі, як вядома, многімі скуплены, і большасць грамадзян засталася ні з чым.

А калі б мы пайшлі па шляху грашовай прыватызацыі, грошы паступілі б дзяржаве і яна змагла б выкарыстаць іх на павышэнне пенсій, сацыяльных выплат і г. д.

Хачу падкрэсліць: я не выступаю супраць прыватызацыі ўвогуле. Я за прыватызацыю, і ў прыватнасці за прыватызацыю дробных прадпрыемстваў, сельскай гаспадаркі, сферы абслугоўвання, гандлю...

Мікалаю Барысіку з Пінска хачу запярэчыць: талковыя кіраўнікі ў нас ёсць, і іх нямала. Яны могуць кіраваць і дзяржавай, і вытворчасцю, і культурай. Трэба толькі ствараць умовы, каб гэтыя людзі выйшлі наверх, занялі тыя ці іншыя пасады. Вярхоўны Савет будзе ўсяляк спрыяць гэтаму. Наш народ быў і застаецца багаты на таленты: невыпадкова ж ён даў свету такога гіганта, як Скарына, якога цяжка параўнаць з кім-небудзь іншым.

***Які лёс чакае «Народную газету» і яе цяперашняга галоўнага рэдактара? Наколькі вядома, гэта газета Вярхоўнага Савета, аднак кадры для яе падбіраюцца чамусьці ў іншых месцах.***

**Мікалай ПЯТРОЎСКІ. г. Мінск.**

— Правільна, «Народная газета» з'яўляецца органам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. І кадры для яе, у тым ліку і кандыдатуру галоўнага рэдактара, будуць падбіраць і зацвярджаць дэпутаты. Да гэтага пытання, дарэчы, мы звернемся літаральна ў бліжэйшы час.

***Чаму вы і парламент хочаце правесці давыбары ў Вярхоўны Савет і дадатковa пусціць упустую мільярды народных рублёў? Няўжо вы лічыце, што ў нас мала яшчэ нахлебнікаў для нашага галоднага, галоднага беспрацоўнага народа? Вы абраных ужо не ведаеце куды падзець: зацвярджаеце па два намеснікі старшыням камісій... Ці не хапіла б для нашай маленькай рэспублікі і 120 дэпутатаў, тады б і работа знайшлася б вам, а то ад няма чаго рабіць будзеце ездзіць па ўсяму зямному шару, а народ будзе беднець...***

**Тацццяна СУПРАНЕНКА, г. Мінск.**

— Не, тут чытачка газеты яўна перабольшыла. Я асабіста не лічу, што нам неабходна абавязкова правесці давыбары ў Вярхоўны Савет. Паўтару яшчэ раз: насельніцтву чатыры разы была дадзена магчымасць прыйсці на выбарчыя ўчасткі і абраць сваіх прадстаўнікоў у вышэйшы заканадаўчы орган дзяржавы. У шэрагу месцаў не прыйшлі. Што ж, гэта таксама іх права. Яшчэ ж на адзін тур выбараў грошы — а гэта звыш 20 мільярдаў рублёў — у дзяржавы сёння проста няма.

Згодзен: Вярхоўны Савет павінен быць кампактны. А да гэтага трэба перагледзець Закон аб выбарах, што, думаю, рана ці позна будзе зроблена.

* * *

Пытанні, пытанні, пытанні... У той ці іншай меры праблемы, аб якіх ідзе вышэй гаворка, закранулі ў сваіх лістах нашы чытачы: Ніны **КАЛЯДА** з Мінска, Віктара **МАКАРЭВІЧА** з Валожыншчыны, **Р. СТАНКЕВІЧ** (Мінск), Івана **ПЯТРОВІЧА** з Маладзечна, Зоі **РАЖКОЎСКАЙ** са Смаргоні, Віктара **ПАЎСЦЮКА** з Ашмян, Т. **БАЯРСКАЙ** з Валожынскага раёна, мінчаніна Мікалая **АДАМОВІЧА**, Уладзіміра **БАСАРАНОВІЧА** з Лунінецкага раёна, Лізаветы **МІСЮТА** з Іванава, мінчан Леаніда **ЦЫГАНКОВА**, Віктара **БАШЛАКОВА**, Аляксея **САЛАМОНАВА** і іншых аўтараў.

Шэраг пісьмаў накіраваны ў міністэрствы і ведамствы Рэспублікі Беларусь. Пасля атрымання адказаў рэдакцыя газеты апублікуе іх на старонках «Звязды».

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 39 — 40, 46 — 47 )

**ЧАЛАВЕК, якога мы збіраемся вам прадставіць (а нагодай для таго стаўся крышачку дзіўны юбілей — 20 гадоў мінула з таго часу, як юны кандыдат навук узначаліў кафедру функцыянальнага аналізу механіка-матэматычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. З тае пары і кіруе цікавым навуковым калектывам), — наўрад ці шырока вядомая асоба. Такі ўжо лёс большасці яго апантаных паплечнікаў. Матэматыкі — пустэльнікі. Яны, у адрозненне ад кампазітараў, не пішуць песні. Матэматыкі, падобна да скульптараў, не высякаюць з каменя неўміручыя помнікі. Хаця і вядомасць творцаў нашмат меншая, чым военачальнікаў, дзяржаўных мужоў. Здараецца, краіна лепей ведае чыноўніка, які адхапіў высокую пасаду на нейкія там тры-чатыры гады. Пра яго пішуць з дня ў дзень газеты. Не сыходзіць той альбо іншы твар з тэлеэкрана. А вучоны (і часам нават прызнаны ў свеце, ушанаваны прэміямі ці ганаровымі званнямі) вядомасць мае на дзіва вузкую, у коле паплечнікаў, студэнтаў, ды і толькі.**



**Выразны прыклад такога лёсу — прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Паморскага міжнароднага педагагічнага універсітэта (г. Архангельск), Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне (Польшча) Якаў Валянцінавіч Радына. Стаў самым маладым загадчыкам універсітэцкай кафедры ва ўсім СССР (у 28 гадоў!). Тады быў яшчэ кандыдатам фізіка-матэматычных навук. Пасля — у 1986 годзе — у Матэматычным інстытуце АН СССР абараніў доктарскую дысертацыю. Праз год стаў прафесарам. І сёння — вось ужо 21-ы год — Якаў Валянцінавіч кіруе кафедрай функцыянальнага аналізу механіка-матэматычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Камусьці падасца яркай кар'ера навукоўца. Так, знешнія адмеціны абываценя могуць і не ўразіць. Можа, хіба што аргументам для нашага, беларускага, прызнання таленавітага навукоўца стане разгляд сусветнай геаграфіі паездак Радыны. Заўважым, не па турыстычнай пуцёўцы, а на навуковыя кангрэсы, канферэнцыі, у замежныя стажыроўкі. Вось гарады, матэматычным асяродкам якіх дзякуючы знаёмству з Якавам Валянцінавічам была прадстаўлена як, напэўна, усім здавалася, чуйная, уважлівая да навукі Беларусь: Брацілава, Брно, Варна, Сафія, Алжыр, Варшава, Ольштын, Лазана, Жэнева, Цюрых, Бёрн, Юмантан, Ванкувер і інш.**

**Мажліва, і гэтым, цябе, чытач, не пераканаеш. Апошні аргумент — думкі, меркаванні самога Якава Валянцінавіча, адказы прафесара Радыны на нашы пытанні.**

*Якаў РАДЫНА:*

# «БЕЗ АДУКАЦЫІ—НЯМА НАВУКІ, БЕЗ НАВУКІ—НЯМА ТЭХНАЛОГІЙ, БЕЗ ТЭХНАЛОГІЙ—БУДУЧЫНІ»

**— Якаў Валянцінавіч, дазвольце ўсё ж пачаць размову не з матэматыкі, а з вашай прыватнай ацэнкі агульнага стану адукацыі...**

— Але, прабачце, тут я ўжо не магу быць арыгінальным, не здолею вас нечым здзівіць. Уся адукацыя — у загоне. Гэта вам, мусіць, і міністр, і рэктар скажуць. Іншая справа, што кожны ў рознай ступені праявіць шчырасць. Галоўнае — на ўзровень, на агульны стан уплывае найперш адсутнасць сродкаў. Заробак прафесара сёння роўны сярэдняму заробку па краіне, а то і нашмат ніжэйшы. Заробак навукоўцаў пасля апошняга павышэння наступны: загадчыка кафедры, прафесара — 977 тысяч рублёў, прафесара — 931 тысяча рублёў, дацэнта — 845 тысяч рублёў, выкладчыка без ступені — 805 тысяч. Бачыце, стаўкі ніжэй за сярэднія па рэспубліцы. З другога боку, няма амаль ніякай розніцы паміж асістэнтам і прафесарам. Які сэнс куды-небудзь імкнуцца, абараняць дысертацыі, займацца навукай?

Чаму я пачынаю сваю размову з грошай? Да гэтага падштурхоўвае аналіз рэчаіснасці. Самыя лепшыя студэнты, разумнікі не ідуць у аспірантуру. А калі хто і абараняецца, то, атрымаўшы кандыдацкі дыплом, займае прэстыжнае месца ў банку ці ў іншай камерцыйнай структуры. У выніку пусцеюць універсітэцкія кафедры.

**— Відаць, многія з таленавітых навукоўцаў стараюцца і пакінуць краіну?**

— А чаму б і не? Шукаюць кантакты і едуць. Там жа плацяць грошы. Там, у чужым свеце, можна застацца сам-насам з матэматыкай. І пры гэтым нешта зарабляць, бязбедна пражыць год-другі.

**— Сярод тых, хто паехаў зарабіць, і Платонаў, колішні прэзідэнт акадэміі навук. Як вы, між іншым, ставіцеся да Платонава?**

— Да Платонава як да вучонага стаўлюся з вялікай пашанай. Такія матэматыкі нараджаюцца рэдка. Як да чыноўніка? Чыноўнік ён дрэнны. Спадзяюся, што і сам Платонаў гэтак жа зараз думае. Ён выхаваў некаторых такіх паслядоўнікаў, якім зусім не знаёма не толькі пачуццё ўдзячнасці, а не знаёма нават больш празаічная рэч — прыстойнасць.

**— А, дарэчы, калі параўноўваць — некалі ж мы без гэтага і кроку ступіць не маглі — нашу і заморскую сістэмы адукацыі, то хто ў пройгрышы?**

— Паверце, ува мне гаворыць не толькі патрыятызм, калі я бараню айчынную, калі хочаце, нават савецкую, адукацыю. Хутчэй, я выступаю ў ролі матэматыка-прагматыка. Дарэмна нам у сферы адукацыі навязваюць арыентацыю на Захад, на Амерыку. У іх вельмі нізкі ўзровень. Аднойчы замежныя вучоныя, наведаўшы нашу універсітэцкую кафедру, у адзін голас запыталі: «Чаму ў вас добра, а ў нас дрэнна?..»

**— І што вы адказалі?**

— Вучоба — цяжкая праца. На Захадзе да навукі ставяцца як да гульні. Там імкнуцца ў працы да палёгкі. Але ж як прыйсці да адкрыццяў, калі не напружваць усе разумовыя і фізічныя здольнасці?

**— Але ж ідэнтычная Нобелеўскай Філдсаўская прэмія з кагорты савецкіх навукоўцаў дасталася ўсяго толькі некалькім савецкім матэматыкам.**

— Магу толькі і сказаць, што амерыканцы большыя патрыёты, чым мы. Таму і прэмія, заснаваная амерыканцам Філдсам, была прысуджана ўсяго 4 савецкім акадэмікам. Беларусаў, на жаль, сярод іх няма. Праўда, амерыканцы яшчэ, да таго ж, і разумнікі. Яны скупляюць «мазгі», цягнуць да сябе чужаземцаў, якія пасля і праслаўляюць амерыканскую навуку.

**— Якаў Валянцінавіч, наколькі я ведаю, вы шмат увагі ў сваёй педагагічнай дзейнасці ўдзяляеце школьнай моладзі, уваходзіце ў журы Рэспубліканскай матэматычнай алімпіяды, з'яўляецеся старшынёй журы гарадской алімпіяды.**

— І не аддзяляю гэтую працу ад сваёй матэматычнай кар'еры, ад навуковых зацікаўленняў. Не будзем мы займацца матэматычнай моладдзю, пачынаючы са школы — заўтра зусім страцім навуку. Поспехі юных матэматыкаў Беларусі даволі высокія. На Міжнароднай школьнай алімпіядзе (а ўдзельнічаюць у ёй 75 краін) беларуская каманда займае не ніжэй 20-га месца. Абыходзіць пры гэтым іспанцаў, французаў.

**— Чаму ж тады «дарослая», скажам так, матэматыка ў горшым становішчы?**

— Раней юных, даравітых і таленавітых забіралі ў Маскву, аддавалі ў школы-інтэрнаты. Цяпер, як толькі больш-менш стануць на ногі, уцякаюць за мяжу.

Патрэбна ствараць мэтанакіраваную праграму заняткаў са школьнікамі. Патрэбен, калі хочаце, нейкі цэнтр.

**— Давайце паспрабуем вярнуцца да пачатку размовы. Адукацыя знаходзіцца ў цяжкім становішчы. І сярэдняя, і вышэйшая адукацыя, і навука — усе гібеюць. Так, вінаваты фінансы. Правільней — іх адсутнасць. Але так паўсюдна...**

— Справа яшчэ вось у чым. Ніхто ніколі сур'ёзна не высвятляў таго, што ж у навуцы, у адукацыі першачаргова трэба развіваць.

**— І матэматыка аказвалася на задворках?**

— Амаль што так. Можна нават больш дакладна сказаць — на задворках задворкаў. Тая ж сітуацыя і зараз. Цяпер вось Камітэту па навуцы даручылі распрацаваць канцэпцыю развіцця навукі і адукацыі. Прайшло дзесяць дзён — і распрацоўшчыкі дакладваюць, што ўжо гатова канцэпцыя. А хто раіўся з матэматыкамі? Чаму не ўлічаны нашы прыярытэты? Наколькі мне вядома, у СССР якраз толькі Патон і Глушкоў і займаліся даследаваннем таго, што ж трэба развіваць.

Увогуле, сітуацыю са станам навукі на Беларусі я параўнаў бы з разбітым жбанам, у якім толькі што пераносілі ваду. А зараз у руках засталіся адны толькі чарапкі ці многа вады ў іх можна прынесці?

**— Магчыма, адна з прычын гібення і матэматыкі, і адукацыі ў цэлым — дэзінтэграцыя, якая закранула ўсе сферы з развалам Савецкага Саюза?**

— І гэта таксама, безумоўна. Раней мы ўваходзілі ў свет у саставе савецкай навукі. Сёння парушаны сувязі з многімі міжнароднымі цэнтрамі. Але ж не ў меншай ступені павінна ўласнае наша глупства. Будучы кансерватарам па натуры, не люблю рэвалюцый і рэвалюцыянераў. А ў нас у адну хвіліну вырашылі ўсё рэфарміраваць, памяняўшы інстытуты на акадэміі. Што ад гэтага змянілася? Няхай усе назавуць студэнта Ісаакам Ньютанам, а ці ж стане ён ад гэтага вялікім вучоным? Масачусецкі тэхнічны інстытут усяго толькі інстытут, а вядомы ўсяму свету. І таму, што ў гэтай ВНУ ёсць традыцыі.

Чаму б, часам задумваюся, рэвалюцыянерам-перабудоўшчыкам, якія адным махам перабудоўваюць інстытуты ва універсітэты, у акадэміі, школы — у ліцэі, каледжы і гімназіі, не пайсці далей: змяніць, напрыклад, свае прозвішчы. Замест Іванавых, Пятровых, Сідаравых — Ньютаны, Ламаносавы, Мендзялеевы. А нашых міністраў давайце будзем называць Віттэ, Вышнеградскі, Сталыпін. Тады ўсе будуць бачыць сваіх герояў, якія за казённы кошт мяняюць вокладкі, не мяняючы зместу. Ці не надта дарагі кошт?!

Традыцыі былі і ў нас. Імкнучыся да новага, нельга іх парушаць. У 1961 годзе, як Гагарын паляцеў у космас, Дж. Кенэдзі прымусіў сенат дасканала вывучыць савецкую сістэму адукацыі.

Рэформы, і я перакананы ў гэтым, павінны заключацца ў выкрышталізоўванні лепшага вопыту. А часам ён патрабуе і вяртання назад. Хопіць бясконцых рэвалюцый. Вопыт гістарычны нам падказвае: рэвалюцыянеры не ўмеюць ствараць. Уявіце сабе, што селянін, замест таго, каб сеяць, араць, збіраць ураджай, займаецца рэформамі, эксперыментамі. Калі ж тады ён будзе працаваць?

**— Якаў Валянцінавіч, а ўсё ж, якім шляхам ісці, каб нешта палепшыць? Калі не рэформы і рэвалюцыі, то што?..**

— І сам у нейкай разгубленасці знаходжуся. Рэцэпт, мусіць, адзін — увага да моладзі, праца на перспектыву, стварэнне матэрыяльнай зацікаўленасці для жадаючых займацца навукай. Ужо сёння, ведаючы стан спраў з матэматыкай, напрыклад, можна спрагназіраваць такую будучыню, у якой нам давядзецца ў якасці універсітэцкіх настаўнікаў запрашаць на Беларусь колішніх нашых студэнтаў-афрыканцаў. Відаць, яны будуць, калі яшчэ пажадаюць, вучыць нашых унукаў. Мясцовых прафесараў наўрад ці гадоў на пятнаццаць—дваццаць наперад мы выхаваем.

**— Прызнацца, пра тую навуковую моладзь, якая ад'язджае, у мяне было такое ўяўленне: з'ездзяць, заробяць нейкую капейчыну і вернуцца...**

— Пра што вы гаворыце? Ад'язджаюць за заробкам у 300—400 долараў. Напрыклад, у Польшчу. І будуюць там кватэры, застаюцца.

**— Якім жа шляхам ісці, што рабіць?**

— Заўважу спачатку пра маральны бок справы. Раней (а ў Англіі і зараз) за дасягненні ў навуках узнагароджвалі дваранскімі званнямі. (Прыклады — Ньютан, Ламаносаў). У нас жа зараз пры слове «прафесар» — шчасце, што не плююць у твар. Пры такіх адносінах да адукацыі можа здарыцца, што і пляваць будуць. Сяржант міліцыі, не кажучы пра вышэйшыя чыны, у большай пашане, чым прафесар, бо яго, сяржанта, зарплата нашмат большая, чым у навукоўцаў самага высокага рангу.

Паглядзіце, што робіцца ў Расіі. Там вучоныя хаця б услых гавораць пра жахлівае сваё становішча. Патрабуюць ад свайго ўрада патрэбнага дастойнага ўтрымання. У нас жа толькі чакаюць, што адбудзецца ў Расіі, спадзеючыся на тое, што наш урад, азіраючыся на суседа, нешта таксама зробіць. Але ж добра вядомая беларуская прымаўка сцвярджае: «Пакуль тоўсты ссохне, дык худы здохне!»

Лічу, перакананы, што ў навукаёмкіх фундаментальных даследаваннях неабходна заключыць міждзяржаўныя пагадненні. Арыентавацца неабходна, вядома ж, на краіны СНД, а не на Англію, Канаду, альбо Японію, якія чаго грэх хаваць, толькі і мараць, каб у нас нічога не было.

Чаму б не стварыць адзіны цэнтр канструктараў і вынаходнікаў (альбо банк ідэй, патэнтнае бюро). Але пры ўмове абавязковага кантролю дзяржавы, каб гэтыя ідэі не раскрадаліся і не прадаваліся за бесцань, як нашы «мазгі».

Перакананы, што без адукацыі — няма навукі, без навукі — няма тэхналогій, без тэхналогій — няма будучыні.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# УНУТРАНУЮ РАДЫЯЦЫЮ — НА КАНТРОЛЬ!

**Афіцыйная назва гэтага дыягнастычнага абсталявання, распрацаванага кіеўскім навукова-тэхнічным цэнтрам «Вірыя Ltd» — модуль радыяцыйнага кантролю (МРК). Гэта цалкам аўтаматызаваная сістэма, якая дазваляе вызначыць актыўнасць гама-нуклідаў у арганізме чалавека ў параўнанні з дапушчальнай для бясшкоднага пражывання на экалагічна неспрыяльных тэрыторыях.**

Вы садзіцеся ў крэсла, зручна ўладкоўваецеся ў ім і праз тры—пяць хвілін прынтэр у аўтаматычным рэжыме раздрукоўвае вам даведку, у якой указваецца рэальная і прыведзеная актыўнасць (нКи), а таксама дадатковая дозавая нагрузка. Нават калі вы не зусім разумееце сэнс гэтых тэрмінаў, ад спецыяліста вы атрымаеце канкрэтныя тлумачэнні і рэкамендацыі па ліквідацыі выяўленых адхіленняў. Гэта вельмі важна, калі ўспомніць, што першы час пасля чарнобыльскай катастрофы людзі бескантрольна прымалі ўсё, што, як «усе сцвярджаюць», «ратуе ад радыяцыі» — ёд, спіртное і г. д. У нашым выпадку прапануемае абсталяванне дазваляе не толькі кампетэнтна вызначыць наяўнасць радыенуклідаў у арганізме, але і атрымаць дадатковыя звесткі аб адхіленні ў рабоце тых ці іншых органаў.

За тры гады «Вірыя» ўстанавіла на пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы тэрыторыях больш за 30 комплексаў. За гэты перыяд атрымана багатая інфармацыя, якая дазваляе зрабіць выснову, што нават у «даволі чыстых» раёнах каля 10—20 працэнтаў насельніцтва мае ўзровень забруджання нуклідамі, які перавышае сярэдняе значэнне для гэтага рэгіёна. Гэта, верагодна, звязана з прывозам прадуктаў харчавання з забруджаных месцаў. А вось у жыхароў прамысловых гарадоў выяўлена моцнае дадатковае забруджанне арганізма ядамі і радыенуклідамі, звязанае ўжо не з чарнобыльскай катастрофай, а з выкідамі прадпрыемстваў і транспарту.

Нядаўна унікальны модуль з'явіўся ў Мінску. Медыцынскі цэнтр Беларускай асацыяцыі ўрачоў разам з МЦ «Медыкол» у цэнтры горада, каля ЦУМа, у медсанчасці завода «Белвар» (былы завод імя Леніна) арганізавалі аддзел эндаэкалогіі, у якім і ўстаноўлена «цуда-крэсла» (тэл.: (0172) 78-81-14, 39-62-91).

Пасля атрымання выніку прапануецца курс лячэння, а таксама прымяненне прэпаратаў на аснове натуральных прадуктаў, сярод якіх «Вітапекцін» і таблеткі, якія ўтрымліваюць пекцін. Гэтыя прэпараты дазваляюць, што пацвярджаецца шматлікімі доследамі, істотна знізіць колькасць радыенуклідаў, а таксама спрыяюць вывядзенню з арганізма халестэрыну і цяжкіх металаў — свінцу, ртуці і інш. Па вывядзенню стронцыю і ртуці — гэта лепшае, што ёсць на сённяшні дзень. А вітаміны і мікраэлементы, што ўтрымліваюцца ў «Вітапекціне», асабліва неабходныя зімой, у перыяд авітамінозу. Па выніках праверкі ў Беларускім санітарна-гігіенічным інстытуце Міністэрства аховы здароўя РБ, кожны з прэпаратаў валодае выключна высокай якасцю і ў першую чаргу рэкамендуецца жыхарам экалагічна неспрыяльных рэгіёнаў і вялікіх гарадоў, г. зн. нам з вамі.

— Мы пайшлі па шляху максімальнай даступнасці абследавання як мага большай колькасці людзей. Каб маглі праверыць сваё здароўе пенсіянеры, перасяленцы, дзеці, маладыя кормячыя мамы, трэба зрушыць акцэнты з хуткай акупнасці ў бок грамадскай карысці сваёй дзейнасці, — сказаў у размове з намі Генадзь Анатольевіч Фокаў, загадчык аддзела эндаэкалогіі МЦ «Медыкол». — У будучым мы плануем самі аб'язджаць аддаленыя тэрыторыі, паколькі комплекс канструкцыйна дазваляе ўстаноўку на аўтатранспарт, напрыклад, на «РАФік».

Канешне, гэтага мала для нашай рэспублікі. Такія комплексы неабходны не толькі сталіцы. Можа быць тыя, хто зацікавіцца супрацоўніцтвам з намі, пазвоняць нам па тэл. 62-79-21.

Ну а тым, хто будзе пацыентам кабінета ў Мінску, пасля заканчэння назначанага курса лячэння можна прайсці паўторную дыягностыку, і, паколькі папярэднія вынікі занесены ў банк даных, ёсць магчымасць параўнаць іх і ацаніць эфектыўнасць лячэння. А распрацоўшчыкі унікальнага метаду і аналізуюць атрыманыя вынікі, і працягваюць развіваць напрамак, дапамагаючы нам з вамі захаваць сваё здароўе.

**Марына РАДАВА,**
**спец. для «Звязды».**

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 7 (26)

ЭКСПОФОРУМ
ВЫСТАВОЧНОЕ ОБЩЕСТВО

(0172) 564 903, 561 968

торговая ярмарка

**СУВЕНИРЫ И ПОДАРКИ**

**ПРИГЛАШАЕМ ПРИНЯТЬ УЧАСТИЕ**

праздничная распродажа

**6–10 марта**

Дворец спорта (пр.Машерова,4)

---

## Акционерный коммерческий банк «БЕЛПРОМСТРОЙБАНК»

**сообщает о проведении собрания акционеров по итогам работы банка за 1995 год. Собрание состоится 22 марта 1996 года в актовом зале «Белпромстройбанка» по адресу: г.Минск, бульвар Луначарского, 6.**
**Начало регистрации в 11.00.**
**Начало собрания — в 13.00.**

**ПОВЕСТКА ДНЯ:**

1. *Итоги работы за 1995 год и основные направления деятельности в 1996 году.*
2. *Отчет ревизионной комиссии о результатах работы в 1995 году.*
3. *Отчет правления о работе в 1995 году.*
4. *О внесении изменений в Устав «Белпромстройбанка».*
5. *Выборы правления «Белпромстройбанка».*
6. *Выборы ревизионной комиссии «Белпромстройбанка».*

---

**ВП «ЭЛОС»**

официальный представитель предприятий-изготовителей электротехнической продукции

Адрес: г. Минск, ул. Чернышевского, 9.

Телефоны: Минск: (0172) 317-569, 683-350 420-767.

**Предлагаем ниже госцен на 30 %**

- Насосы: 1Д200-90; К290/30; К45/30; СМ 125-80-32; ЭЦВ-6-10-80.
- Эл.двигатели: 45 кВт х 3000 об; 55 кВт х 1500 об; 110 кВт х 3000 об; 160 кВт х 1470 об.

Тел. (0172) 31-43-90.

**П Р Е Д Л А Г А Е Т**

- Автоматические выключатели: АЕ, ВА, АП, А — (0,8 ÷ 100А).
- Магнитные пускатели: ПМЛ, ПМА, ПМЕ,ПМ — (0 ÷ 6 вел.).
- Контакторы: КТ — (160 ÷ 630А) — 6 типов.
- Реле: РТЛ — (0,24 ÷ 5А); РП-21-(=110,24В) — с розеткой; МКУ 48С.
- Приставки: ПКЛ-0404, 2204, 4004; КРЛ-104; ПВЛ-(13, 21, 22). Устройство защиты двигателей УВТЗ-1М.
- Реле времени: МИЛ-(2002, 2008); 2РВМ; ВЛ-68 — (все выдержки).
- Фотореле: ФР-1; автоматы оснащения АО-77.
- Посты кнопочные: КМЗ-2; ПКТ-40, 60; ПКЕ-112, 122, 212, 222 — (1, 2, 3 — кнопки); 622, 722 — (2 кн.).
- Кнопки: КЕ — (исп. 2); КМЕ-4110, 4111, 4501, 4520; ВК 16—19.
- Пакетные выключатели: ПВ-3х16/10А; ПВП 14-27—40/25А, 63/40А; ПКУ 3; ПКП-25.
- Рубильники: ВР 32-(100, 250, 400А).
- Выключатели концевые: ВК-200; ВПК; ВП-15/16-21/23Б — 12 типов.
- Автоматические бытовые пробки: ПАР-10. Бытовая пробка: ПРС с ПРЛ (4; 6, 3; 16А); ПВД к ПРД-(10; 16А); Пробка фарфоровая с ПВД-(16; 25А).
- Предохранители: ПН-2-(100, 250А); НПН-2-(40, 63А). Держатели к ПН, НПН.
- Лампы: ДРЛ-250, 400; ЛД-20, 40; накаливания: 220В-(25-500 Вт); МО-36Вх60 Вт; КМ-24-90 млА. Дроссели для ДРЛ-250.
- Светильники: ПСХ-60; НСН-60.
- Разъемы: РШ/ВШ-30 — (4-х кл. 2-типа). Клеммники — (25, 63А). Розетки — (скр. откр.). Патрон — Е-27. Коробки разветвительные — (3-х, 4-рожк.). Тумблера. изолента х/б. Отвертки фигурные.
- Перчатки диэлектрические.
- Эл.счетчики: 3-фазные. Тестеры. ТЭНы воздушные.
- Вентиляторы-обогреватели: керамические, регулируемые — 1, 8 кВт (Австрия).
- Кабель: АРВГ (25, 35 мм.кв). Провод: АППВ-2х2,5; ПРППМ-2х0,9; ПВ3х6.
- Эл.двигатели: 0,55 кВт и выше.
- Переключатели для эл.плит: ПВМ-5 — (5-позиционные, 6 А, 220 В).
- Щитки: распределительные, осветительные, квартирные.
- Аккумуляторы: 6СТ — (60, 75, 90, 182); 6 МТС-9 (мотоциклетные).
- Трансформаторы: ОСМ1-0,063 — (220/5-42; 380/5-42); Т-0,66 — (30/5; 800/5); ТНШЛ-1000/5.

**Гибкая система скидок 6—20 %.**

---

**ПРИГЛАШАЕМ**

принять участие в выставке-ярмарке

**"УСАДЬБА '96"**

которая пройдет

**19-22 марта 1996 года**

в павильоне №12 Национального выставочного центра Украины (Киев, ул. А.Глушкова, 1)

**ОСНОВНЫЕ РАЗДЕЛЫ ЭКСПОЗИЦИЙ:**

- проекты, стройматериалы и оборудование для индивидуального жилого дома
- минитехника и оборудование
- семена,саженцы, посадочный материал
- удобрения и пестициды
- садово-огородний инвентарь
- интрументы
- товары народного потребления
- бытовая техника для дома
- продукты питания

**ОРГАНИЗАТОРЫ:**

Национальный выставочный центр, Минсельхозпрод Украины (Управление организационных вопросов фермерских и подсобных сельских хозяйств), ООО "Фирма "Троян"

**БОЛЕЕ ПОДРОБНАЯ ИНФОРМАЦИЯ:**

по тел./факсам: (044) 267-94-08, 267-95-76
и тел.: (044) 261-75-96, 261-76-69
а также по адресу: 252022, Украина, Киев-22, а/я №54

ВЫСТАВКА ярмарки fair ЯРМАРКА exhibition BOOK FAIR ВЫСТАВКА ЯРМА

---

**СО СКЛАДА В МИНСКЕ**

- ПВА
- цемент
- шифер
- рубероид
- стекло

блоки ГС,плиты ПК, кирпич

**Доставка**

**Тел. 23-55-36**

---

**Покупаем тягачи суперМАЗ.**

**Год выпуска — 1990-й.**

**Телефоны в Литве: 012-54-40841, 012-90-20072.**

---

*Ад усяго сэрца віншуем самага дарагога і любімага для нас чалавека — ДУБОВІКА Івана Антонавіча (в.Слопішчы) з днём нараджэння і з выхадам на заслужаны адпачынак. Жадаем нашаму татачку шчасця ў жыцці, радасці, святочнага настрою, а галоўнае — моцнага здароўя на доўгія гады.*

Дачка Ала, зяць, унукі.

---

*Рэклама ў „Кірмашы" — шлях да поспеху ў Вашай справе!*

---

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТРАНСПОРТ** | | | |
| МАЗ 54323 с п/п рэспортный, б/у | договорная | | 23-48-01 46-59-06, после 21.00 |
| Двигатели к а/м ГАЗ24, ГАЗ53, М412, М2141 (1,7 л) и др. запчасти | | СФ «Орион» | (0222) 25-00-00 |
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звезд (8—15 дней) | от 505$ | ТехноСтар | (0172) 39-47-14 |

---

Организация реализует

**запчасти к топливной аппаратуре автотракторных дизельных двигателей**

отечественного производства и другие запчасти к тракторам и грузовым автомобилям.

**Тел. в Минске: (0172) 56-64-79, 56-56-10.**

---

Организация реализует

**ШИНЫ**

**"Нива", "Волга", УАЗ, МТЗ, ЮМЗ.**

*Оптовые скидки.*

*Приглашаем к сотрудничеству региональных представителей.*

**Арматура (35ГС класс А-111).**

*Тел. в Минске: (0172) 372-783.*

# ЗІГЗАГ ЛЁСУ АЛЯКСАНДРА ГЕРАСІМЕНКІ



***Каб забяспечыць поспех візіту прэм'ер-міністра ў Балгарыю, які пачаўся сёння, беларускі пасол мабілізаваў свае былыя сувязі ў Мінску і новыя знаёмствы ў Сафіі.***

На прэс-канферэнцыю, якую наладзіла некалькі дзён назад у сваім офісе кіраўніцтва Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА) пасля вяртання яе прадстаўнічай дэлегацыі з Балгарыі, Аляксандр Герасіменка, наш пасол у гэтай краіне, недыпламатычна спазняўся. Міхаіл Лаўрыновіч, прэзідэнт БНПА і кіраўнік дэлегацыі, пэўна, каб пацягнуць трохі час і даць Герасіменку, якога чакалі з хвіліны на хвіліну, плаўна ўвайсці ў размову, ад дзелавой часткі перайшоў да сваіх уражанняў аб сённяшнім жыцці балгар. Прыгадваў розныя цікавыя дробязі, напрыклад, іх сярэднямесячную зарплату, цэны ў магазінах на прадукты харчавання, віно і г.д. І, трэба сказаць, дачакаўся пасла, прысутнасць якога, па задумцы арганізатараў прэс-канферэнцыі, павінна была аздобіць, прыўнесці балгарскі каларыт у сухую дзелавую размову аб выніках дзелавых кантактаў прамыслоўцаў дзвюх краін.

Так яно і здарылася. Герасіменка з'явіўся ў той момант, калі Лаўрыновіч ужо выклаў усю інфармацыю пра Балгарыю. Пасол адразу падхапіў размову. Ён удала апераваў лічбамі, фактамі, датамі, яго каментарыі былі кароткімі і дакладнымі, ацэнкі — трапнымі, што сведчыла аб выдатным веданні ім краіны знаходжання. Да яго пасыпаліся пытанні. І не толькі па тэме.

Але мяне здзівіла не столькі эрудыцыя і глыбокае веданне сітуацыі ў Балгарыі (на тое ён і пасол), колькі знешні выгляд Аляксандра Міхайлавіча. Ён здаўся мне памаладзелым, больш рухавым і энергічным, хаця, як ён сам прызнаўся пасля прэс-канферэнцыі, апошнія тыдні знаходзіўся ў цэйтноце ў сувязі з падрыхтоўкай візіту прэм'ера Міхаіла Чыгіра ў Балгарыю. Па гэтай жа прычыне ён спазніўся і ў офіс БНПА.

Я звярнуў увагу на знешні выгляд Аляксандра Герасіменкі не выпадкова. Апошні раз я сустрэў яго (тады яшчэ старшыню Мінскага гарвыканкома) крыху менш як год назад на адным з дыпламатычных прыёмаў, куды былі запрошаны і прадстаўнікі прэсы. Уразіла адсутнасць цеснага кола людзей, якія звычайна таўкліся на падобных мерапрыемствах вакол мэра сталіцы.

Яно і зразумела: у кабінет да старшыні Мінгарвыканкома трапіць не проста, а тут, у нефармальнай абстаноўцы, за келіхам шампанскага, можна проста падысці і, як кажуць, правентыляваць, а пашанцуе — увогуле вырашыць нейкае пытанне, дамовіцца аб сустрэчы на будучыню, нешта папрасіць, «прабіць». Тым больш, што Аляксандр Міхайлавіч меў рэпутацыю чалавека ветлівага, даступнага і нават добразычлівага.

А тут вось вакол яго не было нікога, калі не лічыць першага намесніка Уладзіміра Ярмошына ды яшчэ двух-трох адказных супрацоўнікаў гарвыканкома. Герасіменка выглядаў дрэнна, хаця стараўся трымацца бадзёра, але гэта ў яго не вельмі добра атрымлівалася. Няцяжка было здагадацца, пра што гаварылі яго спахмурнелы твар, задумлівая постаць. Тады па Мінску папаўзлі чуткі аб тым, што ў хуткім часе Герасіменку знімуць. Магчыма, ён ужо ведаў канкрэтную дату свайго «чорнага дня», і, натуральна, увесь быў засяроджаны на сваім далейшым лёсе.

Але не будзем дрэнна думаць пра людзей — не падыходзілі да яго ў той вечар, бо не хацелі мазоліць вочы, лезці з размовамі ці спачуваннямі ў той момант, калі кошкі на душы скрабуцца. Як потым высветлілася, многія з надзвычай шырокага кола знаёмых былога мэра Мінска захавалі да яго шчырыя сяброўскія адносіны і ахвотна адгукаюцца на яго просьбы і прапановы ўжо ў якасці Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь.

Мне, у якога «шапачнае» знаёмства з Герасіменкам (двойчы браў інтэрв'ю, некалькі разоў сустракаўся на нарадах, мерапрыемствах), цяжка дакладна вызначыць, чаму так людзі ставяцца да яго, але ўсё ж паспрабую. Думаю, яго паважалі і паважаюць у першую чаргу за тое, што ён ніколі не быў кар'ерыстам у адмоўным сэнсе гэтага слова. А кар'еру сваю рабіў прыстойна, без лісլівых захадаў перад вышэйшым начальствам.

Ён быў добрым адміністратарам. У той перыяд, які можна назваць часам трагедыі разарваных гаспадарчых сувязей, цаной велізарных намаганняў удавалася трымаць на ўзроўні жыццезабеспячэнне вялікага горада і нават рабіць нешта звыш гэтага. Напрыклад, пры Герасіменку былі, нарэшце, добраўпарадкаваны большасць вуліц, за што яму ад мяне, як аўтамабіліста, вялікі дзякуй.

Цікавы і малавядомы факт з біяграфіі мінскага мэра.

Аднойчы, калі ў Беларусі ішло вылучэнне кандыдатаў на выбарах першага прэзідэнта Беларусі, у кабінет Герасіменкі зайшла шматлікая група паважаных у горадзе і рэспубліцы людзей. Яны прасілі яго даць згоду на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты. Неабходную для гэтага колькасць галасоў абяцалі сабраць у лічаныя дні. Ён адмовіўся.

Не буду каменціраваць гэты факт, але заўважу наступнае: пры жаданні Герасіменка, як і некаторыя іншыя дзеячы яго калібру, мог бы стварыць «пад сабе» нейкую партыю ці грамадскі рух, скажам, барацьбы за прагрэс і дэмакратыю, ці далучыцца да ўжо вядомай, заняцца актыўнай палітычнай дзейнасцю. І, хто ведае, можа пры ўмове выбрання яго дэпутатам парламента заняў бы ў ім высокае становішча. А там бы набраў ачкоў і паспрабаваў скокнуць вышэй. У сярэдзіне студзеня г.г. яму споўнілася 50 — аптымальны ўзрост для штурму палітычнага Алімпа.

Герасіменка, як мне здаецца, не пайшоў у вялікую палітыку па дзвюх прычынах: 1) расчараваўся ў ёй, дакладней, у тым, якімі метадамі яна нярэдка робіцца; 2) яго маштаб і патэнцыял — буйная і зразумелая справа, дзе і адказнасць вялікая, але ёсць шанцы і рэалізаваць сябе.

Гэтай новай справай стала прызначэнне яго паслом. У Балгарыі ён зноў адчуў сябе на сваім месцы ў тым сэнсе, што адразу, як і ў гарвыканкоме, прыйшлося вырашаць комплекс складаных праблем.

У Міністэрстве замежных спраў былі прыемна здзіўлены вельмі хуткім, без «раскачкі», уваходжаннем Аляксандра Міхайлавіча ў сутнасць пасольскай працы. Міністр Уладзімір Сянько, звычайна стрыманы ў ацэнках сваіх падначаленых, калі неяк пры сустрэчы зайшла размова пра Балгарыю, са шчырым задавальненнем адзначыў высокую выніковасць намаганняў Герасіменкі. І як важны аргумент у пацвярджэнне сваіх слоў Сянько коратка пераказаў размову з балгарскім міністрам замежных спраў, у якой той з павагай і сімпатыяй адазваўся пра пасла Беларусі.

У Балгарыі, як і ўсе беларускія паслы ў іншых краінах, Герасіменка павінен быў пачынаць з нуля. Але адаптацыйны перыяд у яго быў нядоўгі. Гэтаму ў многім садзейнічалі добразычлівыя адносіны балгар на ўсіх узроўнях да беларускага пасла, і адсутнасць моўнага бар'ера. Рускую мову там ведаюць многія, асабліва ў структурах улады. І дапамагла яму, безумоўна, былая гарвыканкомаўская загартоўка, якая з'явілася для яго (па прызнанні самога Герасіменкі) у апошнія пяць гадоў выдатнай школай дыпламатыі. Каго-каго, а мэра сталіцы само жыццё вымушала быць вялікім дыпламатам у палітычных варунках жыцця сталіцы.

Але Мінскі гарвыканком — гэта і добрая школа міжнародных зносінаў. На шчасце Герасіменкі, ён яе таксама прайшоў. Дастаткова нагадаць яго шматлікія візіты на чале дэлегацый за мяжу, удзел у міжнародных канферэнцыях, форумах. У свой час Аляксандр Міхайлавіч быў членам праўлення Сусветнай асацыяцыі пародненых гарадоў, першым віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай арганізацыі пародненых гарадоў, актыўна працаваў у Беларускім таварыстве дружбы і г.д.

Але наўрад ці ў той час думаў Герасіменка, што зігзаг лёсу закіне яго ў Балгарыю. Каб ведаў, то, пэўна, падаслаў бы саломкі. Я маю на ўвазе яшчэ адзін малавядомы факт яго біяграфіі. Прыкладна тры гады назад ён і яго намеснік Уладзімір Ярмошын запісаліся на двухгадовыя курсы (лепшыя ў Мінску) інстытута замежных моў. Але пры іх звышзанятасці яны вытрымалі толькі тыдзень і кінулі. Як цяпер высветлілася, дарэмна. Бо Герасіменка па сумяшчальніцтву прызначаны яшчэ і паслом ў Грэцыю, а там Аляксандру Міхайлавічу без англійскай мовы будзе цяжка.

За восем месяцаў знаходжання ў краіне Герасіменка пазнаёміўся з вышэйшым кіраўніцтвам Балгарыі, многімі міністрамі і іх намеснікамі, дзелавымі людзьмі, навукоўцамі, літаратарамі, мастакамі. Наведаў кожную вобласць краіны, дзе дамовіўся аб наладжванні партнёрскіх сувязей пэўных тэрыторый. Напрыклад, звёў Русінскую і Мінскую вобласці. У іх ужо падрыхтавана пагадненне аб супрацоўніцтве. Ёсць надзея, што пасябруюць вобласці — Бургаская з Гомельскай, Варненская — з Брэсцкай, Плоўдзіўская — з Віцебскай.

Каб стварыць добрыя перадумовы візіту прэм'ер-міністра Беларусі, Герасіменка правёў велізарную падрыхтоўчую работу. Адна з апошніх яго акцый — арганізацыя з 28 студзеня па 1 лютага паездкі дэлегацыі беларускіх прамыслоўцаў па запрашэнню Балгарскай індустрыяльнай асацыяцыі (БІА). Вынікі яе і сталі тэмай прэс-канферэнцыі ў БНПА. На ёй Міхаіл Лаўрыновіч па-сяброўску паскардзіўся, што Герасіменка прапанаваў ім такую шчыльную праграму, што яны без продыху круціліся з ранку да позняга вечара. Але затое многае паспелі.

Міхаіл Лаўрыновіч называў шматлікія перагаворы з балгарскімі калегамі, наведванне прадпрыемстваў, сустрэчы з міністрам знешняга і ўнутранага гандлю, першым намеснікам міністра прамысловасці (міністр быў хворы). Лаўрыновіч нагадаў, што ў 1989—90 гг. гандлёвы абарот паміж Беларуссю і Балгарыяй складаў 500—600 млн. долараў, але летась — толькі прыкладна 30 мільёнаў. Мы недаравальна страцілі выгадны балгарскі рынак.

Вяртанне беларускіх прадпрыемстваў на яго — адзін з прыярытэтных напрамкаў работы нашага пасольства. І ёсць усе падставы спадзявацца, што візіт Міхаіла Чыгіра дазволіць зрабіць істотны крок ў гэтым накірунку. А поле дзейнасці адкрываецца шырокае: ад прамых буйных паставак беларускай прадукцыі да цеснай вытворчай кааперацыі, стварэння сумесных прадпрыемстваў у розных галінах. Таму не выпадкова візіт БНПА атрымаў у Балгарыі выдатную прэсу. Усе папулярныя газеты, тэлебачанне шырока асвятлялі знаходжанне беларускіх прамыслоўцаў яшчэ і таму, што гэта была першая салідная дэлегацыя з краін былога сацыялістычнага лагера пасля яго развалу.

Адчувалася, што шматвопытнага і бывалага Лаўрыновіча прыемна ўразіў факт прыёму іх дэлегацыі акадэмікам Благавестам Сэндавым, Старшынёй Народнага сходу Балгарыі (па нашаму — Вярхоўнага Савета), які дзеля гэтага на гадзіну прыпыніў пасяджэнне парламента, каб пагутарыць з беларускімі прамыслоўцамі. Думаю, вы здагадаліся, што ініцыіраваў гэту сустрэчу Герасіменка.

Карысць візіту прадстаўнікоў БНПА (у састаў дэлегацыі ўваходзілі кіраўнікі буйнейшых беларускіх прадпрыемстваў, прадукцыю якіх добра ведалі некалі ў Балгарыі), у тым, што яны, практыкі, самі пераканаліся і, трэба спадзявацца, пераканалі і балгар у неабходнасці хутчэйшага аднаўлення эканамічных сувязей паміж дзвюма краінамі.

Паездка кіраўнікоў мінскіх прадпрыемстваў была своеасаблівай разведкай перад візітам прэм'ер-міністра Беларусі. Яны пасля вяртання далажылі Міхаілу Чыгіру свае высновы і назіранні, якія зводзяцца да аднаго: Балгарыя гатова да шырокамаштабнага эканамічнага супрацоўніцтва.

Сітуацыя наспела і ў Беларусі. Эксперты дзвюх краін, якія на працягу некалькіх месяцаў упарта працавалі над праектамі пагадненняў, падрыхтавалі іх ажно дзесяць! Колькі іх будзе падпісана, хутка даведаемся — чакаць засталося зусім мала.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● АКРУЖАНА ВЯЛІКАЯ ГРУПОЎКА ДУДАЕЎЦАЎ**

У пасёлку Навагрозненскі падраздзяленнямі федэральных сіл блакіравана вялікая група дудаеўскіх баевікоў. На працягу двух месяцаў апалчэнцы будавалі ў пасёлку ўмацаванні, наладжвалі сувязь. У будынку школы абсталяваны штаб групоўкі. Федэральныя войскі не рабілі ніякіх захадаў таму, што ў Навагрозненскім вяліся перамовы аб вызваленні заложнікаў. Зараз тысячная групоўка дудаеўцаў гатова для вядзення баявых дзеянняў. Баі вяліся на працягу дня ў нядзелю. У ходзе перастрэлкі загінулі пяць і атрымалі раненні сем вайскоўцаў федэральных сіл. У панядзелак да пасёлка былі падцягнуты дадатковыя сілы федэральных войскаў, аднак з-за густога туману ў першай палове дня актыўныя дзеянні не вяліся.

**● ЗАХАД ПАДТРЫМЛІВАЕ ЕЛЬЦЫНА**

Адна з галоўных мэтаў візіту канцлера Германіі Гельмута Коля ў Маскву — падтрымка перадвыбарнай кампаніі Барыса Ельцына, з імем якога на Захадзе звязваюць працяг рэформаў у Расіі і рух па шляху дэмакратыі. Аб гэтым заявілі германскія дэмакратычныя прадстаўнікі ў Маскве. Па іх словах, іншыя кандыдаты ў прэзідэнты Расіі пакуль не карыстаюцца на Захадзе ярка акрэсленай падтрымкай. Праграма візіту Коля не прадугледжвае сустрэч з іншымі кандыдатамі ў прэзідэнты.

**● КРЫЗІС СПЫНЕНЫ. ЦІ НАДОЎГА?**

Спецыяльны пасланнік ЗША ў Босніі Рычард Холбрук заявіў, што двухдзённая сустрэча ў Рыме, у якой бралі ўдзел прэзідэнты Босніі, Сербіі і Харватыі, папярэдзіла крызіс мірнага працэсу ў былой Югаславіі. Тры бакі прыйшлі да пагаднення адносна пакета мераў, накіраваных на ліквідацыю перашкод на шляху ажыццяўлення мірных Дэйтанскіх пагадненняў.

**● НАСТУПСТВЫ СКАНДАЛУ НЕ ПРЫМУСІЛІ СЯБЕ ЧАКАЦЬ**

Брытанскі ўрад, у якім дамінуюць прадстаўнікі кансерватыўнай партыі, паступова губляюць свой уплыў на парламент. Яшчэ адзін парламентарый пакінуў партыю. Прычынай крызісу сталі падзеі мінулага тыдня, калі ўрад адмовіўся адказаць на абвінавачанні ў адрас некаторых міністраў па справе аб продажы Іраку зброі ў 80-я гады.

**● ПРЭЗІДЭНТА УКРАІНЫ ЗАЎВАЖЫЛІ**

Сёння прэзідэнт Украіны Леанід Кучма наведае ЗША для атрымання прэміі Свабоды ад некамерцыйнай арганізацыі «Фрыдам хаус» за яго лідзіруючую ролю ў развіцці дэмакратычнай і незалежнай Украіны.

**● ПЕНТАГОН «ПАДЗЕЛІЦЦА» З БАСНІЙЦАМІ**

Па просьбе дзяржаўнага дэпартамента ЗША Пентагон зараз праводзіць інвентарызацыю абаронных запасаў, каб высветліць, што менавіта знаходзіцца ў лішку і можа быць выкарыстана для аснашчэння ўзброеных сіл баснійскай федэрацыі.

**● КАБУЛ ШУКАЕ ПАДТРЫМКІ Ў СУСЕДА**

Міністр замежных спраў Афганістана, які знаходзіцца з візітам у Тэгеране, аб'явіў, што яго ўрад мае намер устанавіць добрасуседскія адносіны з Іранам з тым, каб забяспечыць мірную і стабільную сітуацыю ў рэгіёне. На думку аглядальнікаў, не выключана, што Кабул шукае падтрымкі Ірана супраць талібаў.

**● ІРАН ПРАД'ЯЎЛЯЕ СУДОВЫ ІСК ЗША**

Іран заявіў аб узбуджэнні судовага працэсу супраць Злучаных Штатаў з нагоды быццам бы існуючага тайнага плана, накіраванага на змяненне палітыкі Тэгерана. Міністр замежных спраў Ірана паведаміў адной з англамоўных газет, што ўрад робіць папярэднія крокі па падрыхтоўцы іску.

**● НАВАТ СУПЕРКАМП'ЮТЭР УСЁ Ж ТАКІ ЗАСТАЕЦЦА ТОЛЬКІ МАШЫНАЙ...**

Чэмпіён свету па шахматах Гары Каспараў перамог суперкамп'ютэр кампаніі IBM, выйграўшы шосты, апошні матч у серыі папярэдніх, што праходзіў у Філадэльфіі. Канчатковы лік спаборніцтва — 3 перамогі супраць аднаго пройгрышу і дзве нічые. Каспараў, атрымаўшы перамогу, стаў уладальнікам прызавога фонду ў 400 тысяч долараў ЗША. Калі б ён выйграў усе шэсць матчаў, ён атрымаў бы 500 тысяч долараў.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Самым юным прыгавораным да смяротнай казні ў штаце Арканзас стаў Дэйманд Сэнфард з гарадка Юдора — яму 17 гадоў. Учыненае ім роўна год назад злачынства амаль аўтаматычна прадугладжвае вышэйшую меру пакарання.

Сэнфард пастукаўся да Міні Уорд, плануючы яе абрабаваць пад пагрозай пісталета. Аднак жанчына адчыніла дзверы, таксама трымаючы ў руках зброю. Сэнфард выстраліў першым. Двойчы — у жывот. Затым згвалтаваў ахвяру і збег. Паліцыя, аднак, хутка яго арыштавала. Забітай было... 85 гадоў.

***

Вы выпадкова не хочаце купіць турму? Мэр Нью-Йорка Рудольф Джуніані выказаў арыгінальную «грошазберагальную» ідэю — прыватызаваць... мясцовыя турмы. У Нью-Йорку іх 17, там утрымліваецца 17.266 асуджаных. Утрыманне гарадскіх турмаў абыходзіцца казне Нью-Йорка ў 746 млн. долараў у год. Вось мэр і вырашыў на прыватызацыі турмаў зэканоміць хоць частку гарадскіх сродкаў. Тым больш, што, як ні дзіўна, цікавасць да прыватызацыі турмаў — нават усіх адразу — выказалі ўжо 11 прыватных фірмаў.

**ІТАР-ТАСС.**

Як лепш за ўсё паправіць сваё матэрыяльнае становішча? На думку 36-гадовага прадпрымальніка, трэба на чыгунку класці бетонныя блокі або буйныя металічныя прадметы, каб перашкодзіць нармальнаму руху. Гэтым ён займаўся на працягу чатырох месяцаў, нанёсшы ўрон германскім чыгункам на некалькі мільёнаў марак. У абмен на спыненне дыверсій ён патрабаваў выкуп у памеры 6,5 млн. марак. Калі яго арыштавалі, ён растлумачыў, што пайшоў на гэта, каб паправіць свае фінансавыя справы.

**«Труд».**

# Да нас едзе Мантсерат Кабалье?!



Па праўдзе сказаць, даведаўшыся, што да нас у самы бліжэйшы час, 6 сакавіка, павінна прыехаць лепшае сапрана свету, артыстка, якая «перавтварае спевы ў вышэйшую форму творчасці», багіня вакалу, каралева сцэны, непаўторная, непераўзыдзеная Мантсерат Кабалье, я трошкі засумнявалася. Але на прэс-канферэнцыі ў Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі, у прысутнасці дырэктара тэатра Сяргея Картэса, перад журналістамі выступіў Уладзіслаў Цэцэрын — прэзідэнт вядомага ў музыкальных колах Цэнтра музычнага мастацтва «Класіка». З яго доўгай і блытанай, але палымянай прамовы вынікала наступнае: да нас сапраўды павінна прыехаць сусветна вядомая спявачка.

Каб чытачу стала ў далейшым усё зразумела, спачатку пра Уладзіслава Цэцэрына. Ён даволі вядомая асоба ў музычным свеце. У мінулым — піяніст, выпускнік Маскоўскай кансерваторыі. Сам многа гастраляваў па свеце, а ў пачатку 90-х гадоў узначаліў невялікае канцэртнае агенцтва ў Маскве. У самым пачатку сваёй дзейнасці ў новай якасці — імпрэсарыо — Уладзіслаў Цэцэрын гучна адкрыў адзін з сезонаў Вялікага тэатра ў Маскве. Ён купіў на вечар лепшую канцэртную залу Расіі і падарыў музычным гурманам «рэдкую страву». Тады ў Вялікім тэатры «з падачы» Уладзіслава Цэцэрына спявалі Дзмітрый Хварастоўскі і Наталля Троіцкая. Як пісалі маскоўскія газеты, Цэнтр «Класіка» сумесна з Канверсбанкам і Саюзтэатрам паспеў завяваць трывалы аўтарытэт. Дзякуючы Цэнтру, атрымалі пуцёўку ў шырокі свет піяністы В.Куляшоў, К.Ліўшыц, М.Лідскі, мільёнам нашых аматараў музыкі адкрылася творчасць скрыпача Віктара Траццякова, музыкантаў Юрыя Башмета і Аляксандра Слабадзяніка. У 1992 годзе, восенню, пад эгідай Цэнтра музычнага мастацтва ў Маскве і Санкт-Пецярбургу з фантастычным поспехам прайшлі два канцэрты Мантсерат Кабалье.

Маючы асабістыя кантакты з імпрэсарыо спявачкі, яе родным братам Карласам Кабалье, Уладзіславу ўдалося дамовіцца аб прыездзе і выступленні артысткі ў Мінску. (Карлас Кабалье быў арганізатарам вядомага канцэрта ў час чэмпіянату свету па футболу ў Італіі, у якім аб'ядналі трох такіх розных асоб, як Карэраса, Паваротці і Дамінга. Ён жа наладзіў сумесны канцэрт Кабалье і рок-спевака Фрэдзі Мерк'юры, лідэра групы «Queen».) Чаму менавіта ў Мінску, папытаецё вы. Магчыма, таму, што сам Уладзіслаў — беларус, раней жыў у Мінску. Цікава, што калі Уладзіслаў дамаўляўся з сеньёрай Мантсерат аб выступленні ў Беларусі, яна ніяк не магла зразумець, дзе знаходзіцца такая краіна. І толькі напамін пра Чарнобыль і яго ахвяры дапамог ёй канчаткова зарыентавацца і даць згоду. Спачуванне і спагада да хворых дзяцей неадноўчы падштурхоўвалі яе да наладжвання дабрачынных канцэртаў. Сама Мантсерат нядаўна перанесла цяжкую аперацыю і сем месяцаў нідзе не выступала. Беларусь для Кабалье, дзе яна мяркуе даць адзін канцэрт, — сімвал Чарнобыля, гора, дзіцячы пакут.

***

Што датычыць Беларусі, то тут многае для прэзідэнта Цэнтра «Класіка» аказалася не зусім так, як у Маскве. Напрыклад, у адным з беларускіх банкаў, куды Цэцэрын звярнуўся па фінансавую падтрымку, высокі чыноўнік прастадушна папытаўся, хто такая Мантсерат Кабалье. Даволося тлумачыць, што гэта артыстка ад Бога, спявае на сцэнах «Ля скала», у Венскай оперы, «Ковент-Гардэн», «Опера дэ Пары»...

Пасля напружанай працы ў Беларусі на працягу месяца Уладзіслаў Цэцэрын паспеў заручыцца падтрымкай многіх дзяржаўных і камерцыйных структур. Міністэрства культуры, напрыклад, абяцала зрабіць усё, што ад яго залежыць па прыёму высокай госці. Жыць, сказалі, яна будзе ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі ў Заслаўі, ездзіць па прэзідэнцкім транспарце... Што датычыць банкаўскай гарантыі, якая павінна быць пры заключэнні кантракта, то яе згадзіўся прадаставіць адзін з нашых камерцыйных банкаў. Але на ўмовах, што ўся сума, плюс 30 працэнтаў павінна быць вернута назад. Дарэчы, у якасці ганарару «зорка» згадзілася атрымаць суму ўтрая меншую, чым звычайна. Аднак на момант, калі Уладзіслаў Цэцэрын меўся падпісаць кантракт са спявачкай, ён не меў рэальна ніводнага спонсара. Як тут не нервавацца?

У тэлефоннай размове з беларускім імпрэсарыо сеньёра Мантсерат Кабалье вельмі хвалявалася пра тое, ці дадуць ёй візу ў Беларусь. Звычайна яна атрымлівала візу загадзя.

У якасці анонса на Беларускім тэлебачанні будзе паказана стужка вядомага рэжысёра Валерыя Буніна аб знаходжанні іспанскай прымадонны ў 1992 годзе ў Маскве і Санкт-Пецярбургу. Яе прадаставіў Цэнтр музычнага мастацтва «Класіка».

Чым бліжэй канцэрт Мантсерат, тым усё больш узнікае праблем. Напрыклад, хто будзе аплачваць запіс канцэрта на тэлебачанні — задалі пытанне Уладзіславу Цэцэрыну. Безумоўна, наша тэлебачанне беднае, але ва ўсім свеце прынята, што якраз тэлебачанне плаціць за магчымасць запісу і трансляцыі такога канцэрта.

Здаецца, у Беларусі яшчэ не ўсе зразумелі, што значыць для рэспублікі прыезд Майстра такога ўзроўню, як Кабалье. У Расіі, напрыклад, гатэль «Метраполь» бясплатна прадаставіў у распараджэнне спявачкі і яе світы лепшыя нумары. Для пераезду Кабалье з Масквы ў С.-Пецярбург загадам міністра шляхоў зносінаў былі выдзелены спецыяльны вагон з трох купэ, дзе было нават фартэпіяна і тэлевізар.

Калі ў пачатку 70-х гадоў у мінскім Палацы спорту адбываліся канцэрты аркестра пад кіраўніцтвам Дзюка Элінгтона, да нас ехалі з Сібіры і з Прыбалтыкі, каб толькі трапіць на гэтыя выступленні. Аўтарытэт і прэстыж культурнага цэнтра Мінску прынеслі і выступленні аркестра пад кіраўніцтвам Яўгена Мравінскага. Высокае мастацтва дапамагае ствараць атмасферу духоўнасці ў горадзе.

Аднак ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь будзе вызначана, хто з'явіцца генеральным спонсарам і генеральным прадзюсерам канцэрта Кабалье.

Прынамсі, гэтай культурнай акцыяй, якой у сапраўднасці можа стаць канцэрт Мантсерат Кабалье ў Беларусі, Цэнтр музычнага мастацтва «Класіка» не збіраецца завяршыць сваю дзейнасць. Наадварот. Да 10-годдзя чарнобыльскай трагедыі, 26 красавіка, «Класіка» мяркуе арганізаваць грандыёзную праграму «Зоркі свету — дзецям». Удзел вялікіх артыстаў, як лічыць прэзідэнт Цэнтра «Класіка» Уладзіслаў Цэцэрын, дасць магчымасць прыцягнуць увагу ўсяго свету да Беларусі, прыцягнуць сюды фінансавыя сродкі.

Такія грандыёзныя праграмы могуць ажыццяўляцца толькі пад апекай Прэзідэнта і дзяржаўных структур. Наколькі ж Рэспубліка Беларусь гатова да такіх акцый? Давайце пачакаем прыезду Мантсерат Кабалье. Калі спрацуюць усе дзяржаўныя механізмы, 7-га сакавіка ў тэатры оперы і балета выступіць вялікая артыстка сучаснасці, а 8-га вы ўсе зможаце паглядзець гэты канцэрт у запісу па тэлебачанні.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках на 19 лютага 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11800 | 12000 | 7850 | 8150 | 2.30 | 2.50 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11800 | 12050 | 7800 | 8200 | 2.30 | 2.55 | |
| Белзнешэканомбанк | | | | | | | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11950 4790 | 12050 4900 | 7950 | 8200 | 2.46 | 2.54 | 531-504 |
| Мінскі транзітны банк | 11800 | 12100 | 7800 | 8100 | 2.35 | 2.55 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11800 | 12100 | 7600 | 8050 | 2.00 | 2.50 | 372-825 |
| Народны банк | 11900 | 12100 | 7900 | 8150 | 2.40 | 2.50 | 238-610 |
| «Алімп» | 11900 | 12150 | 7950 | 8200 | 2.45 | 2.55 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11850 | 12100 | 7800 | 8100 | 2.35 | 2.48 | 291-646, 067 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7844.47 | | 2.41 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4760 | | 3248.26 | | 100 бел.р. 39.21 | | |

Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік

** — Аперацыя праводзіцца толькі па безнаяўнаму разліку

*** — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах.

Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.

**Агенцтва Граўцова.**

## ЧЫГУНКА ЦЕРПІЦЬ... І ЎЗВІНЧВАЕ ЦЭНЫ

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды» з кампетэнтных крыніц, верагодна з 25 лютага ў краіне чакаецца павелічэнне цэн на паслугі прыгараднага чыгуначнага транспарту.**

Мяркуецца, што кошт праезду адной зоны (каля 10 кіламетраў) узрасце з 800 да 1200 рублёў. Галоўная прычына павелічэння цэн — велізарныя страты чыгункі ад прыгарадных перавозак. За мінулы год, напрыклад, яны склалі каля 300 млрд. рублёў. І гэта пры тым, што кожны набыты вагон абыходзіцца чыгунцы больш як 300 тысяч долараў. А толькі з 1990 года нашымі суайчыннікамі іх было спалена ўшчэнт цэлых 10 адзінак! І гэта не лічачы зарплаты, якую павінны атрымліваць работнікі чыгункі. Дарэчы, у бліжэйшага суседа — Расіі — кошт праезду адной зоны ўжо даўно складае 1.500 расійскіх рублёў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПАТАННЕЛА МАЛАДЗЁЖНАЕ КІНО

**Значна меншымі стануць цяпер выдаткі на наведванне кінатэатраў на Віцебшчыне.** Абласное аб'яднанне кінавідэапракату прыняло рашэнне аб зніжэнні на 50 працэнтаў кошту білетаў на кінасеансы для студэнтаў, навучэнцаў ПТВ і салдатаў тэрміновай службы, якія знаходзяцца ў звальненні. Калі ўлічыць, што да гэтага сярэдні кошт аднаго білета складаў 8000 рублёў, ільгота для моладзі атрымліваецца даволі значная.

**Уладзімір ШЫК.**

## ВЫХАД ЗА ПРАЗМЕРНАСЦЬ

**Ілона Барадуліна — імя ўжо вядомае ў мастацкім свеце Беларусі. Маладая мастачка апантана працуе ў арыгінальнай і дагэтуль амаль невядомай у нашай Айчыне, як сведчаць мастацтвазнаўцы, творчай манеры.** Матэрыялам, асновай служыць папера. А форма выказвання Ілонай сваіх думак — складаныя, шматгранныя фігуры, якія і ў руху пераплецены паміж сабой. Выстава далёкага ад рэалістычнага вымярэння жывапісу, малюнка, што адкрылася днямі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, прыцягнула ўвагу многіх. А прывітаць мастачку ў дзень адкрыцця прыйшлі мастацтвазнаўцы Барыс Крэпак і Яўген Шунейка, скульптар Уладзімір Крываблоцкі і мастак Рыгор Сітніца, паэт Леанід Дранько-Майсюк. Сама ж Ілона Барадуліна, спрабуючы акрэсліць ці хаця б толькі назваць сваю неардынарную творчую манеру, шмат гаварыла пра пастаяннае жаданне выліць з сябе ўсё адразу, пра празмернасць, якая прысутнічае і ў нас саміх, і вакол нас.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ТЫДЗЕНЬ КУЛЬТУРЫ КІТАЯ Ў МІНСКУ

**З 19 па 23 лютага ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі праводзіцца тыдзень культуры Кітая, які арганізаваны сумесна з пасольствам Кітая ў Мінску і прысвечаны святу Новага года па месячнаму календару.**

Усе жадаючыя могуць трапіць на выстаўку кніг, вырабаў прыкладнога мастацтва Кітая, фотавыстаўку, а 20 і 21 лютага а 16-й гадзіне будуць арганізаваны прагляды дакументальных фільмаў «Стрададуняя кітайская архітэктура», «Свята вясны Кітая» і іншыя.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ.**

## ПАД СЦЯГІ БЫЛЫХ СПАБОРНІЦТВАЎ

**Відаць, вяртаецца «на кругі свае» забытая сістэма спаборніцтваў.**

Выступаючы на абласной нарадзе аграрыяў, старшыня Горацкага райвыканкома Аляксандр Крывянкоў выклікаў на спаборніцтва калектывы Магілёўскага і Шклоўскага раёнаў. У горацкіх сяльгаснікаў на падобную ініцыятыву ёсць усе падставы — раён у ліку лідэраў па ўраджайнасці. Што ж датычыць жывёлагадоўлі, і ў першую чаргу малочнай, то яму ўжо каторы год няма роўных. У мінулым годзе ад каровы было надоена па 3700 кілаграмаў малака, а ў племсаўгасе імя Чкалава — па 5,5 тысячы. І сёння раён «плюсуе», надойваючы ад каровы кожны дзень па 7 і больш кілаграмаў малака.

**Міхаіл УЛАСЕНКА.**

## ХРАМ НА ПЕРАКРЫЖАВАННІ ДЗЯРЖАЎ

**Беларускі камітэт міру (БКМ) падтрымаў ідэю Прэзідэнта А. Лукашэнкі аб узвядзенні да 2000 года Свята-Троіцкага храма на стыку граніц славянскіх дзяржаў: Беларусі, Украіны, Расіі.**

«Шматлікая міратворчая грамадскасць Беларусі, — гаворыцца ў пісьме БКМ Прэзідэнту,—упэўнена ў тым, што гэты храм з'явіцца добрым помнікам, які сімвалізуе дастойны прыклад яднання трох брацкіх славянскіх народаў, будуць садзейнічаць далейшаму ўмацаванню іх векавых традыцый жыць у міры і дружбе, напамінаць аб гэтым цяперашнім і будучым пакаленням».

**Наталля ГУСАКОВА.**

**Падпісная цана на нашу газету ўнесена ва ўсе экземпляры Каталога падпісных выданняў Беларусі, яна не змянілася і складае для індывідуальных падпісчыкаў: на квартал — 40.800 руб., на месяц — 13.600 руб. Прасіце кіраўнікоў сваіх арганізацый выпісаць «Звязду» па безнаяўнаму разліку! На ўсе пытанні падпіскі вам адкажуць у рэдакцыі па тэл. 68-28-77, 68-28-71, у аддзеле падпіскі рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднанага прадпрыемства «Мінская пошта» па тэл. 27-88-21, 27-55-38.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды

(паштовы індэкс) (адрас)

Каму

(прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Кошт: падпіскі ________ руб.; пераадрасоўкі ________ руб.

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды

(паштовы індэкс) (адрас)

Каму

(прозвішча, ініцыялы)

# БЕЛАРУСКІМ ПАРЛАМЕНТАРЫЯМ СПАДАБАЛАСЯ Ў ГОРАДЗЕ НА НЯВЕ

**Напярэдадні візіту дэлегацыі беларускага парламента на сёмае пасяджэнне Міжпарламенцкай асамблеі краін — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў я пацікавіўся ў Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага яго спадзяваннямі адносна гэтага мерапрыемства.**

«Трэба перш за ўсё ўлічваць, што гэта будзе першы візіт не толькі для нашай дэлегацыі, але і для пераважнай большасці ўдзельнікаў асамблеі, бо парламенцкія выбары адбыліся ў большасці краін СНД, — адказаў ён. — Таму, пэўна, будуць вырашацца арганізацыйныя пытанні, будуць сфарміраваны кіруючыя органы і выбраны састаў пастаянных камісій. Безумоўна, мы пастараемся ўнесці нейкі новы імпульс наогул у адносіны паміж парламентамі». Што датычыцца дзейнасці такога органа, як Міжпарламенцкая асамблея, то сп. Шарэцкі адзначыў, што мае вялікія спадзяванні на эфектыўнасць яе работы. «Органы заканадаўчай улады ў сваіх рэспубліках маюць рашаючую ролю, таму менавіта ад іх будзе залежаць, як будуць стасавацца прымаемыя законы, прычым асабліва ў Беларусі, Расіі і Казахстане, якіх звязвае адзіная мытная прастора. Ад іх будзе залежаць стан міждзяржаўных адносінаў увогуле».

Як паказалі вынікі візіту, чаканні лідэра беларускага парламента ў цэлым спраўдзіліся. Аб гэтым Сямён Шарэцкі заявіў падчас прэс-канферэнцыі, якая 19 лютага адбылася ў Вярхоўным Савеце. Ён адзначыў, што нягледзячы на тое, што беларуская дэлегацыя ў новым саставе прысутнічала на высокім прадстаўнічым сходзе ўпершыню, ёй удалося ўнесці пэўную долю канструктывізму ў прымаемыя рашэнні. Гэтую акалічнасць нават адзначылі калегі з парламентаў іншых дзяржаў.

Акрамя беларускай на пасяджэнні ў Санкт-Пецярбургу прынялі ўдзел дэлегацыі Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Расіі і Таджыкістана. У якасці назіральнікаў прысутнічалі прадстаўнікі Украіны. Новым Старшынёй Міжпарламенцкай асамблеі аднагалосна быў выбраны Ягор Строеў. Як заўважыў сп. Шарэцкі, было прынята рашэнне, што з цягам часу будзе адбывацца ратацыя, і ўжо праз год месца кіраўніка МПА зойме прадстаўнік іншай дзяржавы. На пасяджэнні было выбрана кіраўніцтва дзевяці камісій. Як вядома, раней іх было восем, але зараз удзельнікі асамблеі ўбачылі неабходнасць у стварэнні новай камісіі — па вывучэнню вопыту дзяржаўнага будаўніцтва і мясцовага самакіравання. Дарэчы, яе ўзначаліў Анатоль Красуцкі, старшыня пастаяннай Камісіі беларускага парламента па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы. Да таго ж, намеснікамі трох іншых камісій МПА выбраны нашы Васіль Шлындзікаў, Анатоль Малафееў і Марыя Худая.

Прыярытэтнае месца ў рабоце асамблеі занялі прававыя пытанні фарміравання агульнай эканамічнай прасторы, суадноснасці гаспадарчага заканадаўства. Як адзначыў Васіль Шлындзікаў, была прынята трэцяя частка мадэльнага Грамадзянскага кодэкса для дзяржаў СНД, якая закладвае прававы падмурак рыначнай эканомікі. Былі абмеркаваны заканадаўчыя акты «Аб абароне эканамічнай канкурэнцыі», «Аб фінансава-прамысловых групах» і «Аб акцыянерных таварыствах».

Асобна разглядаліся пытанні, накіраваныя на барацьбу са злачыннасцю на тэрыторыі СНД. Удзельнікі асамблеі таксама падтрымалі прапанову беларускай, расійскай і ўкраінскай дэлегацый аб звароце да парламентаў, прэзідэнтаў і ўрадаў краін Садружнасці з мэтай падтрымкі ўдзельнікаў ліквідацыі наступстваў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі паведаміў журналістам, што падчас сустрэч у Санкт-Пецярбургу дасягнуты папярэднія дамоўленасці з кіраўнікамі парламентаў Расіі, Казахстана, Азербайджана і Грузіі аб узаемных візітах.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ТВОРЧЫ ВЕЧАР АЛЯКСАНДРЫ ПАХМУТАВАЙ І ІГАРА ЛУЧАНКА СТАЎ СВЯТАМ ЛЮБВІ ГЛЕДАЧОЎ І СІМВАЛАМ ДРУЖБЫ НАРОДАЎ

**З вялікім поспехам прайшоў 16 лютага ў Цэнтральным Доме афіцэраў творчы вечар народных артыстаў СССР Аляксандры Пахмутавай і Ігара Лучанка.**

Зала была поўная, і апладысменты сустракалі кожную песню выдатных кампазітараў. Самым кульмінацыйным і, напэўна, самым прыемным для галоўных герояў вечара момантам канцэрта стала калектыўнае выкананне ўсімі гледачамі песень «Старый клён», «Главное, ребята, сердцем не стареть» і іншых.

Прагучалі на канцэрце і новыя творы, успрынятыя залай з няменшым натхненнем. Стоячы ўсе слухалі прэм'еру песні Ігара Лучанка «Афганістан». І ў знак удзячнасці аўтару музыкі ад імя расійскіх воінаў-інтэрнацыяналістаў быў падораны памятны гадзіннік.

Творчы вечар Аляксандры Пахмутавай і Ігара Лучанка называўся «Молодость моя — Белоруссия». Але ён не толькі прадэманстраваў добрыя пачуцці яго ўдзельнікаў да нашай краіны. Ён стаў яшчэ і святам дружбы артыстаў Беларусі, Расіі, Казахстана, Азербайджана і Украіны. І, як сімвал гэтай дружбы, усе артысты атрымлівалі ад гледачоў апладысменты і кветкі. А галоўным героям вечара кветкі былі падораны і ад Аляксандра Лукашэнкі. Уручыў іх кампазітарам міністр абароны Беларусі Леанід Мальцаў.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

# У ЗАКАНАДАЎСТВЕ — АДНО, А НА СПРАВЕ — ЗУСІМ ІНШАЕ

**Сёлета ў студзені ў Гродне створана новая грамадская арганізацыя — Таварыства беларускай вышэйшай школы (ТБВШ). У яе састаў увайшлі каля 100 выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў горада. Новая арганізацыя з'яўляецца філіяй Таварыства беларускай мовы і ставіць галоўнай мэтай сваёй дзейнасці спрыянне развіццю вышэйшай школы ў Беларусі, нацыянальнай па форме ды зместу і еўрапейскай па ўзроўню адукацыі.**

Таварыства беларускай вышэйшай школы звярнулася са зваротам, які падпісалі 72 выкладчыкі, да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі і міністра адукацыі.

У звароце адзначаецца, што ў Гродне больш як 50 працэнтаў навучэнцаў сярэдніх школ, якія наведваюць зараз 1—6 класы, навучаюцца на роднай беларускай мове. А ў большасці раёнаў Гродзеншчыны гэты ж паказчык набліжаецца да 100 працэнтаў. Праз пяць гадоў у ВНУ Гродна ў большасці (а на ўсёй Беларусі масава) пачнуць навучацца студэнты, якія атрымалі сярэднюю адукацыю на беларускай мове.

З гэтага вынікае, што да 2000 года ВНУ нашай краіны павінны быць падрыхтаваны да таго, каб даць вышэйшую адукацыю па любой спецыяльнасці на беларускай мове. Гэтага ж патрабуе і заканадаўства. Аўтары звароту падкрэсліваюць, што, улічваючы дадзеныя абставіны, існуе неабходнасць актывізаваць працэс беларусізацыі вышэйшай школы. Аднак на справе адбываецца адваротнае: падрыхтоўка да ўвядзення беларускамоўнай адукацыі праводзіцца ў большасці ВНУ недастаткова, існуюць праявы вяртання старых, аджыўшых тэндэнцый, ёсць спробы дыскрэдытаваць ярлыком «нацыяналіст» патрыятычна настроеных выкладчыкаў і кіраўнікоў ВНУ, якія вядуць навучанне па-беларуску ці хаця б не перашкаджаюць натуральнаму працэсу беларусізацыі.

На думку ўдзельнікаў звароту, з боку дзяржавы павінна быць аказана садзейнічанне працэсу беларусізацыі вышэйшай школы.

Гэтую праблему прапануецца разгледзець на спецыяльным пасяджэнні Вярхоўнага Савета, а ў якасці першачарговага кроку — ужо сёлета здаваць уступныя экзамены ва ўсе ВНУ Беларусі абавязкова і на беларускай, і на рускай мове.

# З МІЛІЦЫЯЙ НЕ ЖАРТУЮЦЬ. У ТЫМ ЛІКУ І З ЭКАЛАГІЧНАЙ

**Стабільнай крыніцай папаўнення гарадскога бюджэту ў Магілёве паступова становіцца экалагічная міліцыя.**

Створаная ў лістападзе, яна толькі да новага года прынесла бюджэту горада 142 мільёны рублёў дадатковага прыбытку. Яшчэ 80 мільёнаў сталі вынікам працы новай службы ў студзені. Экалагічная міліцыя, дарэчы, павінна сачыць, каб своечасова ўбіраліся вуліцы, а таксама выконваліся правілы стаянкі і паркоўкі аўтамабіляў. Парушальнікаў чакае штраф, прычым немаленькі — ад трох мінімальных зарплат і вышэй.

**Сяргей ГРЫБ.**

# У МІНСКУ ЗНОЎ ТРЫ НЯДЗЕЛІ ГІТАРЫ

**Традыцыйны фестываль «Тры нядзелі гітары» адбудзецца ў Палацы культуры МАЗа сталіцы.**

Васемнаццатага і дваццаць пятага лютага, а таксама трэцяга сакавіка на сцэне палаца выступяць гітарысты з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Мінска, Кіева, Харкава.

Сярод гасцей фестывалю добра вядомыя беларускім прыхільнікам гітары Вадзім Чабанаў, Анастасія Бардзіна, Яўген Фінкельштэйн, Дзмітрый Мамантаў і Аляксей Чудзінаў.

Арганізатарам фестывалю з'яўляецца «Клуб аматараў гітары» пад кіраўніцтвам Алега Капянкова.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# АБ ПАМЁРШЫХ ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ ЖЫВЫМ

**У 1995 годзе ў Мінску пахавана больш за 10 тысяч чалавек, з іх 4 тысячы грамадзян былі крэміраваны.**

Як паведаміў начальнік кіраўніцтва прадпрыемстваў камунальнага абслугоўвання Уладзімір Калодка, апошнім часам у структуры рытуальных паслуг назіраецца павышэнне попыту на пахаванне шляхам крэміравання.

А гэта, натуральна, патрабуе грошай: ніша каштуе 215 тыс. руб., прадастаўленне залы — 82 тыс., труна (у сярэднім) — 500 тыс., і сама крэмацыя — 382 тыс. руб. Атрымліваецца, што небагатым людзям пахаваць свайго блізкага чалавека не так і проста.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# 5 МІЛЬЁНАЎ ДОЛАРАЎ БЕЛАРУСІ АД ПАНА СОРАСА

**Менавіта гэткую суму склала леташняе фінансаванне 2 тысяч грантаў, вызначаных Беларускім фондам Сораса.**

Усяго гэтай рэспубліканскай грамадскай арганізацыяй было праведзена ў 1995 годзе 47 конкурсаў. Фінансавую падтрымку атрымалі беларуская адукацыя, навука, культура, экалогія, медыцына і эканоміка.

На нядаўнім з'ездзе (сёмым па ліку) Беларускага фонду Сораса прынята рашэнне аб дэцэнтралізацыі. Пакуль што філіялы БФС існуюць толькі ў Гомелі і Віцебску. У 1996 годзе плануецца іх адкрыццё ў астатніх абласных цэнтрах Беларусі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# БУДУЦЬ ПЕСНІ -- БУДЗЕ ХЛЕБ!

**Калі ў шэрагу рэгіёнаў рэспублікі з-за недахвату фінансавых сродкаў установы культуры апынуліся ў цяжкім становішчы, або наогул закрыліся, на Глыбоччыне назіраецца зусім іншы малюнак.**

Тут не толькі поўнасцю захавалі колькасць дамоў культуры, сельскіх клубаў і бібліятэк, але нават адкрылі ў вялікай вёсцы Пліса Глыбоцкага раёна новы Дом культуры. Зрабіць гэта было няпроста, а ўсё ж знайшлі сродкі і гаспадарчым спосабам правялі рэканструкцыю памяшкання былога сельпо, замянілі ў будынку ацяпляльную сістэму.

Цяпер, апроч мясцовай бібліятэкі, вяскоўцы рознага ўзросту маюць дзе бавіць вольны час.

**Уладзімір ШЫК.**

### ПАВЕДАМЛЕННЕ МІНІСТЭРСТВА СТАТЫСТЫКІ І АНАЛІЗУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА СТУДЗЕНЬ 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў студзені 1996 года ў параўнанні са снежнем 1995 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 105,6 працэнта.

## Каментарый да паведамлення Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь аб індэксе спажывецкіх цэн за студзень 1996 г.

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за студзень 1996 г. Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь растлумачвае.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі» і на падставе Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1995 года № 707 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы» індэксацыя грашовых даходаў за студзень бягучага года, атрымліваемых насельніцтвам з бюджэтных крыніц, праведзена ў выглядзе аднаразовага перагляду памераў аплаты працы, сацыяльных пенсій, дапамог, стыпендый, грашовага забеспячэння.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі праводзіцца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

### ПАВЕДАМЛЕННЕ МІНІСТЭРСТВА СТАТЫСТЫКІ І АНАЛІЗУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ІНДЭКСЕ ЦЭН ВЫТВОРЦАЎ ПРАДУКЦЫІ ВЫТВОРЧА-ТЭХНІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ЗА СТУДЗЕНЬ 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў студзені 1996 года ў параўнанні са снежнем 1995 года індэкс цэн вытворцаў прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 103,9 працэнта ў параўнанні са снежнем 1994 года — 222,8 працэнта.

# АБ'ЕКТЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ЎЦАНІЛІСЯ

**У Мінску з моманту падпісання дагавора аб супрацоўніцтве паміж Міжнароднай фінансавай карпарацыяй і гарадскімі ўладамі адбыліся толькі два аўкцыёны.**

Але ўжо да наступнага аўкцыёну спецыялістамі ў гэтай галіне была зроблена адна немалаважная выснова. Так, каэфіцыент рыначнай прывабнасці, які істотна паўплываў на пачатковую цану аб'ектаў, адменены для трох неаднаразова прадаваемых прадпрыемстваў. У дадзеным выпадку сталовая № 240 і магазіны № 2 і № 25 Заводскага РХГ патаннелі і на аўкцыёне 20 лютага будуць выстаўляцца ўжо па новай цане. Прафесіяналамі Мінгармаёмасці гэта рашэнне тлумачыцца тым, што прывабнасць таго ці іншага аб'екта вызначыць сам аўкцыён. Трэба дадаць, што горад у гэтым выпадку нічога не губляе. Бо галоўнай мэтай продажу нерэнтабельных прадпрыемстваў з вялізнымі запазычанасцямі з'яўляецца не толькі папаўненне бюджэту, а хутчэй рэканструкцыя гэтых аб'ектаў, пераабсталяванне і поўнае аднаўленне іх жыццядзейнасці.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# «ЖАВАРОНАЧКІ, ПРЫЛЯЦІЦЕ, ЦЁПЛА ЛЕЦЕЙКА ПРЫНЯСІЦЕ...»

**Масленіца на Беларусі святкавалася, у адрозненне ад Расіі, дзе яна адзначалася вельмі шырока і называлася «шырокай масленіцай», даволі сціпла — толькі некалькі дзён. А самым распаўсюджаным абрадам было гуканне вясны.**

З пачатку сакавіка дзяўчаты і жанчыны выходзілі на ўзгоркі, узбярэжжы рэк гукаць вясну. Кожны радок гукальнай песні завяршаўся доўгім працяглым уздыхам-воклічам «гу-у-у-у». Магічныя песні павінны былі выклікаць цягу да пладаноснасці ў Зямлі.

Паўсюль на Беларусі вясну клікалі з гары, якая сімвалізавала ўзаемазвязанасць зямлі і нябёсаў і набліжала чалавечы голас да яркага сонца, закліканага аберагаць, асвятляць або караць чалавека.

9 сакавіка, на сараکі, сустракалі 40 выраяў птушак, якія неслі на крылах цяпло. Дзеці падкідалі пры гэтым угору печаных жаўранкаў, зазываючы так вестуноў вясны.

Меў месца і наступны абрад: каб абараніць свой лёс ад хвароб і немачы, ад бруду і хлусні, людзі палілі старое рыззё. Палілі таксама на вогнішчы ляльку лютай зімы, адмыкаючы браму сонечным веснавым дням.

Сяляне пільна сачылі за зменамі ў прыродзе, якія прадвяшчалі альбо дажджы і шчодрасць, альбо сушу і галечу. З-пад іх увагі не выпадала ні тое, як кукуе зязюлька, ні тое, ці п'е певень з-пад страхі.

І ўвогуле нашы продкі верылі, што карагоды, гульні, танцы забяспечваюць гармонію людзей і прыроды. Увесь сакавік не змаўкалі заклікальныя песні.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# НАША МОВА ЗНОЎ ПАДЧАРКА

**Днямі ў Віцебску прайшоў сход грамадскасці горада, дзе людзі выказалі сваю заклапочанасць становішчам беларускай мовы, яе ўціскам, што затармазіла працэс адраджэння беларускасці ў сферы ўсяго грамадскага жыцця і прынялі Заяву. Па сутнасці, як адзначаецца ў Заяве віцяблян у абарону беларускай мовы, зноў пачалася русіфікацыя, накіраваная на паступовую асіміляцыю, замаскіраваную разважаннямі, цяпер ужо аб славянскім адзінстве.**

У Віцебску, пішацца ў Заяве, у мінулым навучальным годзе па-беларуску навучаліся ў школах 3300 вучняў, у тым ліку 698 амаль у сарака першых класах. Сёлета іх ужо адпаведна, каля 200, і толькі пяць першых класаў. Адзіная гімназія са статусам беларускамоўнай пераходзіць на рускую мову. Зачыняюцца беларускамоўныя групы і дзіцячыя садкі, а колькасць дзяцей, што выхоўваюцца па-беларуску, зменшылася ў параўнанні з леташнім утрая. Расфарміроўваюць беларускамоўныя класы, якія па некалькі гадоў працавалі на беларускай мове, і не таму, што бацькі не жадаюць вучыць там сваіх дзяцей, а таму, што так ім «раяць».

Сход грамадскасці горада Віцебска ў Заяве патрабуе, каб у нашай дзяржаве выконваліся Канстытуцыя і законы, накіраваныя на моўнае і культурнае адраджэнне, быў адноўлены пісьмовы экзамен для выпускнікоў сярэдніх школ па беларускай мове, а ва ўсіх ВНУ абавязкова здавалі ўступны экзамен па беларускай мове.

Сход віцяблян прапанаваў сакратарыяту ТБМ імя Ф. Скарыны інфармаваць адпаведныя структуры ЮНЕСКО і Савета Еўропы аб палітыцы культурнай і моўнай дыскрымінацыі карэннага насельніцтва Беларусі, што робіць праблематычнай самаідэнтыфікацыю беларусаў як еўрапейскага народа.

У Заяве пішацца: «Мы звяртаемся да суайчыннікаў, прыхільнікаў беларускага слова з заклікам: стварайце суполкі ТБМ, абараняйце беларускую мову, беларускую школу, сваю годнасць, беларускі лад жыцця».

# НАВОШТА ЧУЖАЯ ГАРЭЛКА?

## СІТУАЦЫЯ

Пасля таго, як дазналіся, што адвучыць народ ад «піцця» адміністрацыйнымі спосабамі немагчыма, утварыўся ў нас своеасаблівы вакуум. Афіцыйна гэта нібы і зло, але для дзяржавы ў плане эканамічным вельмі выгадна. Ды толькі ўсе апошнія гады пераконваюць, што дзяржава альбо не ўмее, альбо не жадае бачыць гэтай сваёй выгады ад гандлю гарэлкай. Яна неяк незаўважна і назаўжды страціла найперш сваю манаполію. Сістэма ліцэнзавання ў продажы, а потым сістэма працы спіртзаводаў на «давальніцкай» сыравіне размылі ўсе асновы, на якіх дзесяцігоддзямі грунтавалася не толькі манаполія, але і пэўны ўзровень якасці, гарантый дзяржавы перад спажыўцамі гэтага спецыфічнага прадукту. Апошні ўдар па нашай гарэлачнай вытворчасці нанесла дзяржаўная палітыка ў цэнаўтварэнні. Сёння бутэлька звычайнай беларускай гарэлкі каштуе больш як два долары. Вясковы дзядзька, які прызвычаіўся сваю пенсію ацэньваць менавіта гарэлачным эквівалентам, застаецца нібыта і спакойным — адпавядае мінулым яго ўяўленням і ацэнкам. Але хто растлумачыць гэтаму дзядзьку, што менавіта ў цэнах на гарэлку мы ўражальна апярэдзілі ўсіх сваіх суседзяў? У Літве, у той жа Расіі кошт звычайнай бутэлькі гарэлкі вагаецца ў межах аднаго долара.

Шмат гадоў жыву ў памежжы, побач з Літвою і Латвіяй, розных патокаў тавараў «туды і назад» за гэтыя гады наглядзеўся, але такога яшчэ не было: на Беларусь вязуць літоўскую гарэлку! Ну а пра расійскую і гаварыць ужо няма чаго. Вязуць не толькі ў торбах. Вязуць не толькі ў легкавых аўтамабілях і прычэпах да іх. Вязуць у кузавах магутных аўтамабіляў, вязуць у чыгуначных вагонах. Вязуць таму, што гэта выгадна. І, адкрыўшы межы з Расіяй, мы апынуліся са сваімі незразумелымі цэнамі на вельмі неабходны прадукт бездапаможнымі. Мы можам выдаваць указы і распараджэнні «аб прыпыненні і спыненні». Але інтэрвенцыя будзе працягвацца, бо гэта эканамічна выгадна.

А які ўрон гэта інтэрвенцыя прыносіць нашай эканоміцы? Вось лічбы. Сёння на складах Віцебскага вытворчага аб'яднання «Віцебскаграпром» знаходзіцца незапатрабаванай 200 тысяч дэкалітраў гарэлкі. Гэта, як-ніяк, 4 мільёны бутэлек, гэта мільёны і мільёны страчаных грошай у бюджэце. І сітуацыя гаворыць аб тым, што ў бліжэйшы час гандлёвыя арганізацыі не запатрабуюць гэтыя тысячы дэкалітраў гатовай прадукцыі, бо ў іх свае, вельмі адназначныя праблемы з рэалізацыяй. Па гарадах Віцебшчыны, там дзе працуюць крамы дзяржаўнага гандлю, рэалізацыя гарэлкі ў студзені 1996 года ў параўнанні са студзенем мінулага года скарацілася на дзве трэці. Не лепшая сітуацыя і ў кааператыўным гандлі. Тут скарачэнне рэалізацыі меншае, але гэта гаворыць толькі аб тым, што інтэрвенцыя таннай расійскай гарэлкі яшчэ не поўнасцю захапіла глыбінку. Але гэта справа часу. Прычым сітуацыя змяняецца вельмі хутка і незваротна. У студзені мінулага года Глыбоцкі райспажыўсаюз прыняў на рэалізацыю 8 вагонаў гарэлкі. У студзені сёлетняга — толькі два.

Цікавіўся сітуацыяй у раёнах Віцебшчыны, і раптам нечаканасць: у Шаркоўшчынскім раёне змяншэнне рэалізацыі дзяржаўнай гарэлкі склала ўсяго 20 працэнтаў. У чым справа? Аказваецца, гэты месяц быў вельмі неспрыяльным для камерцыйных структур, яны былі нават часова прыкрыты, вымушаны спыніць сваю дзейнасць. Але, думаецца, упушчанае навярстаюць...

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

# КАМУ ПАТРЭБНА МОЛАДЗЬ?

## ПРАБЛЕМА

Праблема маладзёжнай злачыннасці па-ранейшаму прадаўжае хваляваць многіх людзей, як, дарэчы, і праблемы моладзі наогул. Прычын — сотні, жадаючых у іх разабрацца і нечым дапамагчы — адзінкі.

Што зменяць адносіны дзяржавы да моладзі? Яе жорсткі ультыматум? Дык можна сказаць, што ён ужо выстаўлены. Толькі непаўналетнімі ў 1995 годзе ўчынена 10.706 злачынстваў, з іх на рахунку гэтых «дзетак» 38 забойстваў і нападаў, 68 згвалтаванняў, 170 разбояў.

Сёння маладзёжныя праблемы практычна зніклі з экранаў тэлебачання, са старонак прэсы, з вуснаў «дзяржаўных мужоў». Палітычныя дзеячы толькі ў час перадвыбарных кампаній успамінаюць пра моладзь.

На згортванне выхаваўча-прафілактычнай работы з боку дзяржаўных устаноў і арганізацый моладзь адказала экстрэмізмам, агрэсіўнасцю, жорсткасцю. Гэта не можа не насцярожваць. На моладзь сварацца, шкадуюць яе і баяцца. І на гэтым усё заканчваецца. Безумоўна, заўсёды так не можа прадаўжацца. Неабходны зусім новы і неардынарны падыход да вырашэння маладзёжных праблем, і злачыннасці ў тым ліку.

Палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя непарадкі ў грамадстве, вядома, у першую чаргу паўплывалі на амаладжэнне злачыннасці, яе вытанчанасць, навізну. Прастытуцыя, наркаманія, п'янства сталі ледзь не нормай у моладзі, і што самае жудаснае — у падлеткаў. «Спецыялісткамі» старажытнай прафесіі мараць быць далёка не адзінкі. І не апошнюю ролю ў гэтым адыгрываюць відэакасеты з парнаграфічнымі фільмамі, якія прадаюцца на кожным вуглу, розныя віды прадукцыі нагляднай агітацыі падобнага кшталту. Путаны, начныя матылькі, вакзальныя шлюхі, гасцінічныя і вулічныя прастытуткі. А побач з імі — дзяўчынкі-малалеткі, якія «працуюць» нароўні з дарослымі. За 20 $ прама на дарогах дзяўчынкі аддаюць сэрца, душу і цела. Крыху больш яны просяць за «бытавыя і іншыя паслугі» на кватэры. Іх можна выклікаць па тэлефоне, і яны прыязджаюць хутчэй чым «хуткая дапамога». Амаль ва ўсіх рэкламных газетах аб'явы тыпу «маладыя і прывабныя дзяўчаты дапамогуць правесці вольны час» займаюць нямала месца. Такіх «масавікоў-арганізатараў» не адзінкі і нават не дзесяткі, такіх — сотні і дзесяткі соцень. Такіх — цэлая армія.

Медыкі задыхаюцца ад колькасці хворых на венерычныя захворванні і няхваткі лекаў. Прапануюць легалізаваць прастытуцыю, тлумачачы гэта папаўненнем казны і кантролем за здароўем путан і іх кліентаў.

Міліцыя ў сваю чаргу, і не без падстаў, бачыць сярод прастытутак спрыяльную глебу для злачынстваў, насілля, наркотыкаў, сутэнёрства. Выйсце знайсці вельмі цяжка, але ўсё ж неабходна. І пакуль дарослыя вядуць барацьбу за сваё існаванне, вырашаюць больш важкія палітычныя і эканамічныя праблемы, маладое пакаленне, прадастаўленае парнакультуры, разбэшчваецца на вачах. Падзенне нораваў абернецца бядой, рэспубліка застанецца без будучага, страціўшы самае каштоўнае — генафонд нацыі.

Не можа не хваляваць і працвітанне п'янства сярод непаўналетніх. У мінулым годзе за гэта прыцягнута да адказнасці 20.259 чалавек. Неабходна сказаць, што часта дзецям дапамагаюць займець цягу да «зялёнага змея» дарослыя. Органамі ўнутраных спраў пакараны 8493 аматары Бахуса за спойванне падлеткаў. Сюды можна прыплюсаваць тысячы гандляроў, якія без лішніх пытанняў прадаюць спіртное ўсім, хто ўмее і можа хадзіць. І не без дапамогі такіх на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх знаходзіцца 2838 малалетніх алкаголікаў. Жудасныя лічбы.

Не стаўлю мэтай нагнятаць абстаноўку і паказаць жыццё моладзі ў чорным святле, але не магу не закрануць і такую тэму, як наркаманія сярод моладзі і падлеткаў. Такія словы як «опіум», «марыхуана», «анаша», «гераін», «какаін», «наркотык», трывала ўвайшлі ў лексікон некаторай часткі моладзі. І калі раней перад міліцыяй стаяла задача вызначыць і прыцягнуць да адказнасці нешматлікіх пастаўшчыкоў небяспечнага зелля, то цяпер, з-за валу наркатычных сродкаў, галоўная задача праваахоўных органаў — спыніць дзейнасць каналаў пастаўшчыкоў і пашыраную вытворчасць, абараніць насельніцтва, у тым ліку падлеткаў, ад гэтага прадукту. А пра тое, што непаўналетнія «балуюцца» гэтай атрутай, гаворыць той факт, што на ўліку ў міліцыі знаходзяцца 122 наркаманы, якім няма яшчэ васемнаццаці гадоў. Безумоўна, сацыяльна-палітычная і эканамічная сітуацыя ў Беларусі ўплывае на моладзь, на яе погляды, сацыяльныя і палітычныя паводзіны. Вынікі ананімнага анкетавання вучняў 9—11 класаў некалькіх агульнаадукацыйных школ рэспублікі даюць нямала падстаў для сур'ёзных разважанняў аб уздзеянні такога жыцця на псіхіку нашых дзяцей. Высветлілася, што 48,5 працэнта з 600 апытаных ужываюць спіртное і кураць, амаль 30 працэнтаў хлопчыкаў і дзяўчынак ведаюць пра палавое жыццё не па чутках. Вельмі негатыўныя адносіны маладых людзей да многіх сацыяльных і палітычных структур Беларусі. Так, напрыклад, усяго 7,8 працэнта давярае сродкам масавай інфармацыі, 21,1 працэнта апытаных лічыць, што ўлада ў краіне належыць карумпіраваным структурам. Да чаго ўсё гэта можа прывесці, здагадацца няцяжка. Ды і адказы на адзін з самых цікавых пытанняў — «Калі б вам выпала магчымасць стаць невідзімкай» — гавораць самі за сябе. Кожны чацвёрты быў бы злодзеем або рабаўніком. І толькі кожны дваццаты хацеў бы зрабіць нешта карыснае.

**Пётр РАБКАВЕЦ.**



# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

*З Дэлі перадае карэспандэнт ІТАР-ТАСС Леанід КОТАЎ*

КАЗЯРОГУ зоркі прадказваюць цяжкі тыдзень. Магчыма, вам давядзецца прыняць рашэнне аб выхадзе з сумеснага прадпрыемства, паспрачацца з медыкамі наконт велічыні платы за лячэнне. Можа непакоіць здароўе, ды і дома не ўсё будзе гладка. Не губляйце кантролю над сабой, і справы наладзяцца.

Калі ў ВАДАЛЕЯ ёсць надзейныя сябры, яны выратуюць яго ад розных непаразуменняў, якія могуць падпільноўваць яго ў сферы фінансаў, а таксама на працы. Астролаг папярэджвае аб магчымасці непрыемнай размовы з роднымі жонкі, а маладыя могуць трапіць у сеткі плеткароў. Закаханым не трэба на будучым тыдні будаваць вялікіх планаў, яны могуць разваліцца, як картачны домік.

РЫБЕ лепш прыберагчы свае грошы і не пазычаць. Трымайцеся далей ад сумніўных аперацый і ва ўсім давярайцеся пачуццю самазахавання. А ў астатнім у вас усё будзе нармальна, калі вы адмовіцеся ад алкаголю і іншых таксінаў. Інакш ваша здароўе падасць сігнал «SOS».

АВЕНА чакаюць вялікія справы, з якімі ён справіцца з дапамогай сяброў. А вось дома наспявае канфлікт. Закаханыя могуць нават разлучыцца, але ненадоўга. Гаспадынь чакаюць важныя пакупкі, якія трэба будзе абдумаць загадзя.

ЦЯЛЕЦ будзе знаходзіцца ў добрым настроі, бо справы ў яго складваюцца выдатна. Па пошце або тэлефоне да вас паступяць добрыя весткі. Канец тыдня абяцае ўрачыстасць, а значыць весялосць, і зарад неабходнай вам бадзёрасці.

БЛІЗНЯТАМ зоркі абяцаюць поспех у іх справах, здзяйсненне дзелавых задум. Вы атрымаеце задавальненне, калі саступіце ў чым-небудзь сваім дамашнім, прыслухаецеся да парад бацькоў. Нябёсы будуць спрыяць рамантычным прыгодам, захапленням і падарожжам. Блізняты, не губляйцеся.

РАКАМ, асабліва творчых прафесій, астролаг раіць рыхтавацца да поспехаў. Добрыя перспектывы ў вас і на асабістым фронце. Прадстаўніц цудоўнай палавіны чакае шмат увагі з боку процілеглага полу чалавецтва. Зоркі рыхтуюць вам глебу для кахання, якое павінна хутка расквітнець.

ІЛЬВАМ давядзецца паклапаціцца аб кар'еры. Чакаецца паступленне грошай ад пачатай раней справы. Зоркі спрыяюць капіталаўкладанням і абяцаюць багатыя дывідэнды. Не выключана вылучэнне па службе і паступленне спакуслівых прапаноў. Тыя, хто захварэў, — выздаравеюць, а хто шукае кахання, — зведаюць яго.

ДЗЕВЕ параім добра падумаць, перш чым брацца за новую справу. Поспех чакае тых, хто займаецца гандлем, працуе ў сферы прамысловасці, а таксама абраў прафесіі ўрача або архітэктара. На уік-энд зоркі падораць вам знаёмства з цікавым прадстаўніком процілеглага полу.

У ШАЛЯЎ замацуецца становішча на працы, да іх думкі прыслухаецца начальства, а іх дзелавыя прапановы возьмуць верх над праектамі канкурэнтаў. У сям'і складуцца сардэчныя ўзаемаадносіны. Каханне нічога не азмрочыць, нават... родныя, якія прыедуць нечакана.

СКАРПІЁНУ давядзецца займацца нечаканымі справамі. Не выключаны прыток дадатковых сродкаў бізнесменам, а тым, хто сядзіць на зарплаце, давядзецца пазычаць грошы ў знаёмых. Цікавая інтрыга чакае вас у сардэчных справах, дзе неабходна будзе зрабіць нейкі важны выбар.

СТРАЛЕЦ павінен разабрацца ў сваіх справах і зрабіць, магчыма, не зусім вясёлыя высновы. Ва усякім разе, поспех у бізнесе вам не пагражае, і будзьце да гэтага гатовы. Цяжкасці аблегчыць падтрымка з боку каханага чалавека, да парад якога трэба пастаянна прыслухоўвацца.

# ТЭЛЕБАЧАННЕ, 20 лютага

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Музыка. 3-і клас. Развіццё музыкі. **9.20** «Вестгейт». 27-я серыя. **10.15** «Голы кароль». Тэлеспектакль. **11.15** «Марусіна карусель». Мультфільм. **11.25** «Чорная дарога». Дак. фільм. **12.20—13.25** «Сакрэтны фарватэр». Маст. фільм. 2-я серыя. **15.00** Навіны. **15.15** Гандлёвы дом. **15.30** «Фімка», «Чаму сланы?», «Шкоднік». Мультфільмы. **16.05** Тэлебачанне — школе. Пазакласнае чытанне. 3-і клас. Артур Вольскі — дзецям. **16.25** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.50** «23 градусы 40 хвілін на ўсход ад Грынвіча». Перадача з Брэста. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Ахоўваецца дзяржавай». Дак. фільм. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** Вертыкаль. **19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** Анатоль Рамашын і Эдуард Марцэвіч у фільме «Грэх». **23.30** Супергол. **24.00** Навіны.

### ГРТ

**8.15** «Сакрэт трапіканкі». **10.00** Смехапанарама. Вядучы — Я.Петрасян. **10.30** «Адгадай мелодыю». **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.50** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» Серыял. 1-я серыя. **14.20** «Драконы падзямелляў». **14.40** Кват'етэ «Вясёлая кампанія». **14.50** Мультыпролія. **15.10** Чароўны свет, або Сінема. **15.35** «Элен і хлопцы». **16.00** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Сем дзён спорту». **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** «Тэма». **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.30** «Аперацыя». **20.50** «Шчыт і меч». Фільм 1-ы. «Без права быць сабой». **22.30** Футбол. Суперкубак Еўропы. «Аякс» (Галандыя) — «Сарагоса» (Іспанія). Перадача з Галандыі. У перапынку — «Масква-Крэмль».

### Канал «Расія»

**10.20** Міліцэйская хроніка. **10.30** «Кучугуры і наваколле». Перадача 2-я. **10.50** Кліп-антракт. Анка. **10.55** «Ніжнон». Дак. фільм. **11.15—11.30** Новая лінія. **15.05** Там-там навіны. **15.15** Свята кожны дзень. **15.25** «Адысея». Маст. фільм. **15.50** Каляндар. **16.20** Новая лінія. «Паволжа». **16.50** Ніхто не забыты. **16.55** Кінаафіша. **17.10** Кіпрас Мажэйка. «Паралелі». **17.25** Вуснамі дзіцяці. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** На атрыманне прэміі «Тэфі-96». «Чароўны ліхтар» Я. Гінзбурга. **21.20** «Арганаўты». Мультфільм для дарослых. **21.40** Рэй-тайм. **22.30** Рака часу. **22.35** Аўтаімгненне. **22.40** «Спрут-6». 2-я серыя. **23.40—0.22** Прыватная калекцыя.

### РТР

**10.35** Асацыяцыя «Наша кіно» прадстаўляе... **12.30** Гадзіна «Рэаліста». **13.35** Казкі для бацькоў. «Нараджэнне». **14.05** Медыцынскія навіны Расіі. **14.10** Відэапаэзія. Аляксандр Твардоўскі. **14.15** Ж.-Ф.Рамо. Канцэрт №4 для флейты, віяланчэлі і фартэпіяна. **14.25** «Камедыя памылак». Маст.фільм. 1-я серыя. **15.30** Асоба. Гісторыя. Культура. «З гісторыі купецтва». Кнігавыдавец Іван Сыцін. **16.00** Цішыня №9. **16.30** Вышэйшая школа.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 82-я с. (ЗША). **17.30** У пошуках прыгод. **18.00, 21.00, 23.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** Рускі дэтэктыў. Ралан Быкаў, Аляксандр Бляўскі і Леў Дураў у фільме Ігара Госцева «Шэрыя ваўкі» (Замова супраць Хрушчова). **21.35** Гадзіна серыяла. «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 34-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.20** Меламанія: «Шэдоўз».

### Санкт-Пецярбург

**12.10** «Гром у раі». Серыял. **12.55, 16.25, 22.20** Музычны момант. **13.00** Хуткая дапамога. **13.30** Парады садаводам. **13.45** «Па прамой». Маст. фільм. **14.50** Экспрэс-кіно. **15.05** «Ураза-Байрам». Віншаванне муфтыя Равіля Гайнутдзіна. **15.15** Стыль жыцця. **15.40** «Нямецкая хваля». **15.55** Тэатральная правінцыя. **16.30** Дзецям пра зверанят. **17.00** Па ўсёй Расіі. **17.10** Паказвае Ленінградская АТК. **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** Спартыўныя навіны. **19.00** «Гром у раі». Серыял. **19.45** Тэлеслужба бяспекі. **19.55** «У папа быў сабака...» Маст. фільм. **21.10** Андрыс Ліепа і яго княгінечка. **22.00** Спорт, спорт. **22.10—22.25** Дзень нараджэння.


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 868.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12